Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 8 (4859) 26 лютага 2016 г.



# Пластычнае мысленне

**Сучасная харэаграфія ў дуэце з драматычным тэатрам ствараюць мастацтва адзінства цела, пачуццяў і розуму. У модзе перформанс, які на мове рухаў праўдзіва і адкрыта гаворыць пра свет вакол нас, іранічны, імклівы, бязлітасны. Спектаклі ўступаюць у адкрыты дыялог з гледачамі, межы сцэны і залы сціраюцца, рэквізіт зводзіцца да мінімуму, пакідаючы толькі чырвонае палатно-акцэнт, драўлянае крэсла альбо паветраныя шарыкі, што падаюць са столі... Уся ўвага — на акцёраў. Ім не схавацца за дэкарацыямі. Чысты сінтэз музыкі, святла, пластыкі і інтанацый. Што ж галоўнае? Вострыя паралелі такога мастацтва з рэальнасцю, псіхатэрапеўтычны эфект, што дае імпульс да жыцця, спантаннасць, а значыць, сакралізацыя пачуццёвасці. Узрушэнне, нарэшце. Эмацыянальны шок, які выводзіць са звычайнага стану раўнавагі. Чацвёрты адкрыты форум эксперыментальных пластычных тэатраў «ПлаStформа-2016» прайшоў у Мінску з 15 па 21 лютага. Неабавязкова камунікаваць словамі — можна перадаваць інфармацыю жэстамі, прычым вельмі ўдала.**



*Рамантычнае «Інтра» ў выкананні тэатра танца «Адлюстраванні».*

## МАТЫВАЦЫЯ

Азірніцеся. Мы жывём у амаль аднолькавых шматпавярховых збудаваннях-скрынях і амаль не размаўляем ужывую, схаваўшыся за «шыльдамі» сацыяльных сетак. Прыкмета нашага часу — адчужанасць. Страх перамен настолькі ўеўся ў свядомасць, што ўсё новае ўспрымаецца варожа. Механічнае існаванне, як у Замяцінскім шэдэўры «Мы» — людзі-лічбы. Што хвалюе нас? Памер кашалькоў, машын і сукенак — знешняя абалонка. А як жа духоўнасць? На дапамогу прыходзіць мастацтва — смелае, ачышчальнае, тэатр, які нараджаецца зноў, набывае новыя формы і матывуе да перараджэння. Чым адметная чарговая «ПлаStформа»?

Чытайце на стар. 12 ▶



*«Кампазіцыя з экспрэсіўнай лініяй», 2014 г.*

# «Мастацтва — гэта асобная рэлігія!»

**На пачатку года ў жыцці мастака Аляксандра Малея адбылася важная падзея: чатыры яго карціны трапілі ў фонд падтрымкі сучаснага візуальнага мастацтва *«Kolodzei Art Foundftion»*, які знаходзіцца ў Нью-Ёрку. Гэтая навіна ўпершыню была агучана ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў, дзе дэманструецца арт-праект «Станковы жывапіс у прасторы асяроддзя, аб'екта і інсталяцыі» ўнікальнага мастака, тэарэтыка сучаснага мастацтва Аляксандра Малея. У аснове праекта — аб'ёмна-прасторавыя кампазіцыі, насычаныя неаднастайнымі сюжэтнымі задумамі. Аўтар — актыўны даследчык супрэматызму — напрамку ў авангардысцкім мастацтве, які быў заснаваны ў першай палове 1910-х гадоў Казімірам Малевічам. Менавіта Малевіча мастак лічыць сваім галоўным настаўнікам.**

Заўтра (27 лютага) Аляксандр Малей будзе святкаваць юбілей — шэсцьдзясят пяць гадоў. Першапачаткова выстаўка не была прымеркаваная да юбілейнай даты, а планавалася на бягучы год. Але ж у жыцці не бывае нічога выпадковага, і аматары мастацтва авангардыста атрымалі магчымасць павіншаваць яго асабіста. Скарысталіся магчымасцю паразмаўляць і мы.

Чытайце на стар. 13 ▶

## Пункцірам

✔ За значны асабісты ўклад у папулярызацыю культурнай спадчыны беларускага народа за мяжой і ўмацаванне добрасуседскіх адносін паміж Беларуссю і Польшчай Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў ордэнам Францыска Скарыны старшыню галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Яна Сычэўскага і сакратара гэтай арганізацыі Валянціну Ласкевіч. Медалём Францыска Скарыны адзначаны мастацкі кіраўнік ансамбля беларускай песні «Прымакі» Юрый Астапчук.

✔ Міністэрства культуры Беларусі і Беларуская праваслаўная царква правядуць сумесныя мерапрыемствы ў Год культуры. Адпаведны дакумент падпісалі Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Павел і міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў. Адбылося пасяджэнне рабочай групы па пытаннях узаемадзеяння Міністэрства культуры Беларусі і Беларускай праваслаўнай царквы, у тым ліку распрацоўкі доўгатэрміновай праграмы супрацоўніцтва на 2017 — 2021 і наступныя гады.

✔ Умацаванне культурнага супрацоўніцтва садзейнічае развіццю ўсяго комплексу двухбаковых адносін. Такое меркаванне выказаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Беларусі Цуй Цымін у Ліцэі БДУ, дзе прайшоў канцэрт з нагоды кітайскага Свята ліхтароў. Удзел узялі беларускія і кітайскія студэнты, навучэнцы з ВНУ і школ, дзе вывучаецца кітайская мова. Арганізатарам выступіў Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ пры падтрымцы Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі.

✔ Стала вядомая дата правядзення XXV Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Юбілейны фэст запросіць гасцей 14 — 18 ліпеня. На 12 — 13 і 19 — 20 ліпеня запланаваны дадатковыя мерапрыемствы. Паводле дырэктара форуму, кіраўніка Сусветнай асацыяцыі фестываляў Аляксандра Сідарэнкі, асноўнай фестывальнай падзеяй, вакол якой сфарміравана праграма, застанецца конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. Спаборніцтва вакалістаў пройдзе ў тры этапы, кожны з якіх будзе ўяўляць паўнавартасны канцэрт з тэлевізійнай трансляцыяй.

✔ Паказам спектакля «Людзі на балоце» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы адзначылі 95-годдзе з дня нараджэння Івана Мележа. У якасці гасцей святочнага вечара былі запрошаны народныя артысты Беларусі Марыя Захарэвіч і Генадзь Гарбук, якія выконвалі галоўныя ролі ў першых пастаноўках «Людзей на балоце» Купалаўскага тэатра, а таксама дочкі і ўнук Івана Мележа.

✔ Тэматычная выстаўка «Абаронцам Айчыны прысвячаецца» адкрылася ў Белдзяржуніверсітэце. У экспазіцыі прадстаўлены рэдкія выданні часоў Вялікай Айчыннай вайны, якія адлюстроўваюць гераічную барацьбу савецкага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У прыватнасці, наведвальнікі ўбачаць нумары легендарнага выдання — «Раздавім фашысцкую гадзіну!»

*Актуальна*

# Прамова пра мову

## Паводле статыстыкі ЮНЕСКА, беларуская мова — другая па мілагучнасці пасля італьянскай

**Пра гэта нагадаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Францыі, Пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы.**

Падчас тэматычнага мерапрыемства ў штаб-кватэры ЮНЕСКА пры ўдзеле кіраўніцтва і супрацоўнікаў сакратарыята арганізацыі ішла гаворка пра захаванне і развіццё моўнай разнастайнасці ў свеце на сучасным этапе і падыходаў да гэтага актуальнага пытання. Калі ЮНЕСКА абвяшчала Міжнародны дзень роднай мовы, галоўнай мэтай было дзейнічаць у інтарэсах культурнай разнастайнасці і шматмоўя.

«Якасць адукацыі, мовавыкладання і вынікі навучання» — так акрэсліла тэму сёлетняга Міжнароднага дня роднай мовы генеральны дырэктар ЮНЕСКА Ірына Бокава, адзначыўшы неабходнасць заахвочвання шырокага выкарыстання роднай мовы ў педагагічным працэсе, а таксама ў справе папулярызацыі і захавання розных моў.

На думку Паўла Латушкі, сярод асноўных мэт дзейнасці ЮНЕСКА немалаважнае месца належыць моўнай праблематыцы, бо мова — адзін з найбольш эфектыўных сродкаў захавання і развіцця сусветнай матэрыяльнай і нематэрыяльнай спадчыны, а распаўсюджванне родных моў спрыяе павышэнню ўзроўню адукаванасці.

**Дана ХОДНІЧ**

*У літаратурным асяродку*

# Таленты і пакаленні

Слуцкая гімназія № 1 — старэйшая ў Беларусі сярэдняя навучальная ўстанова. Яшчэ ў 1617 годзе тут было заснавана Слуцкае кальвінісцкае вучылішча, якое пазней стала называцца гімназіяй і захоўвае гэты статус па сённяшні. На творчую сустрэчу, прымеркаваную да Міжнароднага дня роднай мовы, сюды завіталі сябры Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Намеснік старшыні аддзялення Ірына Карнаухава прачытала свае вершаваныя і празаічныя радкі, прысвечаныя дзецям. Знайшлі водгук у юных слухачоў творы узздзенскага паэта Віктара Сабалеўскага — пра родную прыроду, вясковае жыццё, каханне. Заслаўская паэтэса Святлана Быкава правяла займальны ўрок роднай мовы для вучняў малодшых класаў — у загадках, прымаўках, вершах. На развітанне гімназісты падарылі гасцям сувенірныя паяскі.

Міжнародны дзень роднай мовы адсвяткавалі і ў сталічнай гімназіі № 4 — гэтым разам з удзелам пісьменніка Анатоля Зэкава. На сустрэчы творца чытаў свае вершы, у тым ліку з новых парадыйных зборнікаў «Тары-бары», «Вінегрэт пад фуршэт» і «Замарожаныя пачуцці», распавядаў цікавыя жыццёвыя гісторыі, якія пасля леглі ў аснову празаічных твораў.

Паэтычны зборнік старшыні Саюза пісьменнікаў Дагестана, народнага паэта Дагестана Магамеда Ахмедава «Горная ліра» ў перакладзе з аварскай на беларускую мову Міхася Пазнякова быў прэзентаваны ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 7. Паэт, член СПБ Хізры Асадулаеў прапанаваў публіцы некалькі сваіх вершаў і вершаў Магамеда Ахмедава па-аварску, распавёў пра культурныя традыцыі ды звычаі горцаў. А яшчэ прачытаў уласны верш пра Беларусь (якая з цягам часу стала для яго другой радзімай) у перакладзе з карацінскай мовы на беларускую Рыгора Барадуліна.

Галоўны спецыяліст МГА СПБ паэтэса Іна Фралова распавяла аб праекце «Літаратурныя сезоны», у межах якога сёлета, у Год культуры, у сценах бібліятэкі № 7 будзе гучаць паэтычнае слова розных краін свету.

У Міжнародны дзень роднай мовы гасцей прымала і рэдакцыя айчынных часопісаў «Буся» і «Вясёлка»: сюды завітала пераможца конкурсу малюнкаў «Зялёная жабка», абвешчанага летась часопісам «Буся», — 5-гадовая Міхаліна Запартыка. Вядома, не адна, а разам з бацькам, дырэктарам Беларускага дзяржаўнага архіва навукова-тэхнічнай дакументацыі Аляксандрам Запартыкам, і бабуляй, дырэктарам Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганнай Запартыка. Усё ж пачынаецца з сям'і! Галоўны рэдактар часопісаў «Буся» і «Вясёлка» Уладзімір Ліпскі ўручыў Міхаліне падзяку за прадстаўлены на конкурс малюнак.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

*Фэст*

# Лоўкасць рук ці чараўніцтва

## Ілюзіяністы з розных краін заваражылі Гродна

**Яны ўжо ведаюць, што гэты горад можна назваць сталіцай чараўніцтва ў Беларусі: тут праходзіць фестываль ілюзіяністаў і фокуснікаў «*Magic Show*». Гродзенскі драматычны тэатр стаў пляцоўкай, дзе паказвалі майстэрства фокуснікі з Беларусі і Украіны, Літвы і Польшчы, а таксама Францыі.**



Фота БелТА.

Кірыл Швец (Гродна).

Гіём Донза, напрыклад, прадэманстраваў, як абыходзіцца з картамі і грашыма. Рафал Валюш з Польшчы ўразіў магчымасцю незаўважна залазіць у кішэні па грошы — ніхто не пакрыўджаны, таму што ў выніку усё вярнулася ўласнікам. Зала ўцягвалася ў дзею падчас працы Нікаласа Кіна з Літвы. Украінскі ілюзіяніст Віталь Луган наогул здолеў матэрыялізаваць голуба з малюнка. Але Віталь Гарбачэўскі з дуэта «*Double Fantasy*» пайшоў далей: намаляваўшы партнёршу, памяняўся з ёю целамі і прымусіў узляцець.

Не менш прыцягальным аказалася спаборніцтва ілюзіяністаў-пачаткоўцаў. У намінацыях «Мікрамагія», «Сцэнічная магія» і «Ментальная магія», прычым у дзвюх узроставых катэгорыях: «да» і «пасля 18 гадоў». Пераможцы мілыя і вельмі апантаныя: за тры гады правядзення фестывалю ў Гродне майстэрства фокуснікаў прыцягнула ў свае шэрагі шмат нашых землякоў. Яны ўжо могуць зачараваць ці стварыць ілюзію. Іншая справа, што сярод тых, хто стварае фокусы, ужо з'явіліся і ахвотныя іх выкрываць. Загадкавыя істоты людзі: быць падманутымі рады і пры гэтым даруюць чараўніку, вось толькі б зразумець, як ён гэта робіць…

**Марыя АСІПЕНКА**

Скарбонка

# У Егіпце пабачылі беларускую вясну і восень

## Упершыню ў Міжнародным фестывалі анімацыйных фільмаў у Каіры прымалі ўдзел мультфільмы з Беларусі

Іпаспяхова: фільм Таццяны Кубліцкай «Вясна восенню» (вытворчасць Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм») адзначаны на фестывалі за лепшы сцэнарый, пра гэта паведаміла Пасольства Беларусі ў Егіпце. Ідэю для яго аўтар і рэжысёр узяла ва Уладзіміра Караткевіча. Думкі і перажыванні беларускага хлопчыка адчулі на фестывалі, які прайшоў ужо ў дзявяты раз. Удзельнічалі анімацыйныя фільмы з 16 краін свету — Еўропы, Азіі, Аўстраліі і Лацінскай Амерыкі. Нездарма анімацыя ў нашы дні мае вялікую колькасць прыхільнікаў і плённа развіваецца: у ёй душа чалавека, які стварае фільм, народа, для якога гэтая стужка, культуры, якая ў ім адлюстраваная. Журы выбірала больш чым з 50 фільмаў. Беларусь яшчэ была прадстаўленая адным з фільмаў серыі «Казкі старога піяніна. Іаган Штраус» (рэж. Алена Пяткевіч). Па сутнасці, гэта анімацыйны серыял, што на Каірскім фестывалі мае асобны конкурс. Нашы майстры адзначаны прызам, а гэта сведчыць, што анімацыйнае кіно — тая ніша, дзе мы можам сябе сцвердзіць на сусветным узроўні. Гэта кіно робіцца з душой, і часта дзякуючы апантанасці душ тых, хто не можа не ствараць.

**Марыя АСІПЕНКА**



*Кадр з мультфільма «Вясна восенню».*

На памяць

# Умбэрта Эка: спакой дзякуючы выкананаму абавязку

Пісьменнік і крытык, чалавек, які шмат разважаў пра шляхі чалавецтва, сышоў у Вечнасць, але пакінуў багатую інтэлектуальную спадчыну, і справа нават не ў колькасці раманаў і навуковых, крытычных работ, а ў змесце напісанага. Прапануем некалькі цытат з кнігі «Пяць эсэ на тэмы этыкі».

«…Хто ведае, можа, смерць роўная не ілюзіі, не накіраванаму ўнутр выбуху, як прынята лічыць, а выбуху, накіраванаму вонкі, эксплазіі, і не выключаны адбітак у нейкім там неспасціжна аддаленым віры Сусвету нашага персанальнага софтверу (таго, што некаторыя называюць «душой»), таго, што мы сфарміравалі на працягу нашага жыцця? Там адбіваюцца і нашы ўспаміны, і нашы згрызоты, і, адпаведна, непазбытныя пакуты ці ж, наадварот, — пачуццё спакою дзякуючы выкананню абавязку і дзякуючы любові».

«…Я думаю, што асноўныя прынцыпы прыроднай этыкі (пры ахаўленні яе глыбіннай рэлігійнасці) супадаюць з прынцыпамі этыкі, заснаванай на веры ў трансцэндэнтнае. Немагчыма не прызнаць, што прыродныя этычныя прынцыпы засталіся ў нашых сэрцах на падставе праграмы выратавання. Калі застануцца (вядома ж, яны застануцца) і ў той, і ў гэтай этыкі ўзаемна ненакладаемыя маргінальныя вобласці, — тое ж самае адбываецца і пры судакрананні паміж рознымі рэлігіямі. Самае галоўнае, каб у рэлігійных рознагалоссях атрымлівалі верх любоў і разважлівасць».

*З эсэ «Калі на сцэну прыходзіць іншы»*

«…Найпершы абавязак інтэлігенцыі — крытыкаваць уласных спадарожнікаў («мысліць» азначае няспынна крумкаць і накаркваць). Бывае, што інтэлігент у грамадстве выбірае маўчанне з-за боязі здрадзіць тым, з кім сябе ідэнтыфікуе, і ў перакананні, што пры ўсіх іх мімалётных і неістотных агрэхах у канчатковым варыянце яны шукаюць вярхоўнай даброты для ўсіх. Гэта трагічнае рашэнне, і гісторыя ведае нямала прыкладаў таго, як людзі ішлі на смерць, шукалі смерці (за справу, у якую не верылі) выключна таму, што лічылі, што нельга на месца вернасці паставіць ісціну. На самай жа справе вернасць — гэта маральная катэгорыя, *veritas* — катэгорыя тэарэтычная».

«…Не тое каб інтэлектуальная функцыя была аддзеленая ад маральнай. Вырашыць ажыццяўляць гэтую функцыю — выбар маральны, сапраўды гэтак жа, як маральным з'яўляецца рашэнне хірурга рэзаць жывое мяса дзеля выратавання жыцця кагосьці. Але праводзячы разрэз, хірург не павінен расчуліцца, у прыватнасці, і тады, калі вымушаны, паглядзеўшы, зашываць, таму што апераваць няма чаго. Інтэлектуальная функцыя можа прывесці чалавека да вынікаў эмацыянальна невыносных, паколькі многія праблемы вырашаюцца толькі высновай, што яны рашэнняў не маюць. Маральны і наступны выбар: ці выказаць сваё заключэнне або замаўчаць яго (можа быць, у надзеі, што заключэнне памылковае). Гэта трагічнасць становішча тых, хто хоць бы на адну хвіліну бярэ на сябе цяжар "парламенцёра ад чалавечага роду"».

*З эсэ «Асэнсоўваючы вайну»*

«…Я мяркую, што друк у яго традыцыйным выглядзе, ці то ёсць газета ці часопіс на папяровай аснове, добраахвотна купляемы намі ў кіёску, усё яшчэ выконвае сваю галоўную функцыю, асноўную не толькі для нармальнага развіцця цывілізаванага грамадства, але і для нашага задавальнення і для асалоды нас, якія вось ужо некалькі стагоддзяў мяркуюць разам з Гегелем, што прачытанне газеты — ранішняя малітва сучаснага чалавека».

*З эсэ «Аб прэсе».*

Юбіляры

# Філасофія лёсу

## прадстаўлена на кніжнай выстаўцы ў гонар акадэміка Яўгена Бабосава

Віншавалі яго з 85-годдзем у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі падчас адкрыцці выстаўкі «Філасофія і сацыялогія — гэта мой выбар, гэта мой лёс». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, акадэмік Яўген Бабосаў — аўтар 50 манаграфій, больш за 100 навуковых публікацый. Як сацыёлаг ён углядаецца ў сваю краіну, прысвячае даследаванні сучасным працэсам, якія адбываюцца ў Беларусі, напрыклад, у такіх работах, як «Сацыяльна-стратыфікацыйная панарама сучаснай Беларусі», «Структурная трансфармацыя ладу жыцця насельніцтва Беларусі напрыканцы ХХ — ХХІ стагоддзя». Летась прадстаўлена работа «Чалавекамернасць сацыяльных сістэм». Вучоны працягвае назіраць за сучаснасцю. Для развіцця беларускай навукі ён прычыніўся і як настаўнік: падрыхтаваў больш за 100 кандыдатаў філасофскіх і сацыялагічных навук, каля 30 з іх сталі дактарамі навук.

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**26 лютага** — *у літаратурны клуб «Спадчына» пры гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70) на творчае свята, прысвечанае Міжнароднаму дню роднай мовы. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**28 лютага** — *на літаратурна-музычнае свята ў Цэнтр нацыянальных культур (вул. Чычэрына, 19). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**29 лютага** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16) на свята маладой паэзіі «Чатыры пары года». Пачатак у 17.30.*

**1 сакавіка** — *на вечар духоўнай паэзіі і песні ў межах Дзён праваслаўнай культуры. Імпрэза адбудзецца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (вул. М. Багдановіча, 15). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**2 сакавіка** — *у літаратурны клуб «Аўтограф» (вул. Карбышава, 42) на творчую сустрэчу з паэтам Рагнедам Малахоўскім.*

**3 сакавіка** — *на вечар сучаснай паэзіі «З любоўю да жанчыны», які пройдзе на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта (вул. К. Маркса, 31) з удзелам вядомых паэтаў Беларусі. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**4 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Юрасём Нераткам, прысвечаную 20-годдзю творчай дзейнасці, у дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**3 сакавіка** — *на вечарыну з удзелам віцебскіх творцаў «Права на неўміручасць», прымеркаваную да 120-годдзя народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы, у Віцебскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна. Пачатак а 14-й гадзіне.*

Дайджэст

• Навукоўцы Саўтгемптанскага ўніверсітэта вынайшлі спосаб захаваць найбольш значныя тэксты сусветнай культуры на максімальна вялікі тэрмін: з дапамогай унікальнай тэхналогіі інфармацыя наносіцца на спецыяльныя кварцавыя пласціны. Такія дыскі з лёгкасцю вытрымліваюць тэмпературу да тысячы градусаў, а таксама могуць захоўваць вялізную колькасць інфармацыі: аб'ём адной пласціны складае прыкладна 360 тэрабайт. Ужо цяпер адкрывальнікі новай тэхналогіі запісалі на кварцавыя носьбіты тэксты Біблії, Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, асноўныя работы Ньютана і шэраг іншых дакументаў.

• Знойдзеныя два раней не вядомыя вершы Джона Р. Р. Толкіна. Знаходка адбылая дзякуючы даследчыку творчасці пісьменніка Уэйну Хаманду. У асабістых нататках Толкіна ён заўважыў запіс, дзе згадваюцца дзве работы, надрукаваныя ў часопісе *The Abingdon Chronicle*. Як высветлілася, гэта штогадовы зборнік Школы Божай Маці ў горадзе Абінгдан. А творы, пра якія пісаў Толкін, апублікаваныя ў зборніку ў 1936 годзе, за год да з'яўлення на паліцах кнігарняў «Хобіта», вершы «*Noel*» і «*The Shadow Man*». Апошні тэкст («Чалавек у цені») з'яўляецца ранняй версіяй верша, які ўвайшоў у зборнік 1962 года «Прыгоды Тома Бомбадзіла».

• Суд рабочага пасёлка Тонкіна Ніжагародскай губерніі Расійскай Федэрацыі разглядае незвычайную крымінальную справу: двое жыхароў з суседняй вёскі абвінавачваюцца ў тым, што нанеслі непапраўны ўрон сельскай бібліятэцы. Прычым злачынства было здзейсненае не праз вялікую любоў падсудных да кніг. Уночы мужчыны прабраліся ў бібліятэчнае памяшканне, вынеслі ўсе кнігі — а гэта амаль дзесяць тысяч тамоў — і, як толькі развіднела, вывезлі скрадзенае ў найбліжэйшы пункт прыёму макулатуры. У людзей, якія прымалі ўнушальны збор, сумненняў не ўзнікла, і злачынцам выдалі каля пяці тысяч рублёў. Між тым паліцыя ацаніла кошт скрадзенага ў сто тысяч рублёў. Падсудным пагражае некалькі гадоў зняволення.

• Даследчыкі старажытнакітайскай культуры знайшлі ў замураванай у пячоры бібліятэцы ў Заходнім Кітаі скрутак IX стагоддзя. Дакумент датаваны 856 годам, мае назву «Дунхуаньскае Бюро этыкету» і ўяўляе з сябе збор правілаў прыстойных паводзінаў таго часу. Напрыклад, калі чалавек напіўся на вечарыне і непрыгожа сябе паводзіў на вачах ва ўсіх, ён мусіць на наступны дзень выказаць у пісьмовай форме просьбу прабачыць яго і даслаць гэты ліст гаспадарам дома. Для такога звароту існаваў адмысловы шаблон, таксама змешчаны ў «Бюро». Разам з названым скруткам знойдзена мноства іншых старадаўніх дакументаў.

• Сацыёлагі аднаго з універсітэтаў ЗША знайшлі спосаб павысіць паспяховасць у старшакласнікаў з праблемных сем'яў Нью-Ёрка. Падчас заняткаў па грамадазнаўстве навучэнцы былі падзеленыя на тры роўныя групы, і ў кожнай з іх цягам пяці тыдняў зачытвалі розныя тэксты пра адных і тых жа вялікіх навукоўцаў. Для першай групы зачытвалі біяграфіі Альберта Эйнштэйна і Мары Кюры з акцэнтам на іх поспехі. Другая група слухала расповеды пра выпрабаванні, якія выпалі на долю зорак навукі. Трэцяя — даведалася пра сумневы і ўнутраныя супярэчнасці, з якімі змагаліся героі. Па выніках эксперымента стала вядома, што ў першай групе цікаўнасць да вучобы панізілася, у той час як другая і трэцяя паказалі поспехі ў многіх школьных дысцыплінах.

## Мікола ШАБОВІЧ



***

Калі запаўночыць, ці сціхне журба,
Ці здолеюць зоркі разгойдаць сумненні?
Ляскоча-бразгоча пачуццяў арба,
І нікнуць-мігцяць парыванні-імкненні

Здзівіць гэты свет, перайначыць,
змяніць,
Даверыць радку сэрцавейную споведзь,
Каб нават і словам адным не змяніць,
А душы людскія злагодзіць, звясновіць…

Не хочацца верыць, што дзень адгарэў,
Забраўшы з сабой, бы ў палёт-
вандраванне,
Пачуццяў былых ратавальны сугрэў,
На тонкае шчасце агмень-спадзяванне…

***

Гэта проста прыпын перад будучай
новай дарогай,
Гэта проста прыпын — невялікі,
на некалькі дзён,
Каб нанова любіць гэты свет
да апошняе змогі,
Безаглядна, як продкі яго палюбілі
спакон.

Шанаваць родны кут і святое
бацькоўскае слова,
Ні сабе не зманіць, ні сябрам,
што шчаслівяць твой лёс,
Хоць зязюля даўно адкувала
ўжо больш за палову,
Толькі што сумаваць — не пара шчэ
для роспачных слёз.

Гэта проста прыпын. Гэта з кожным
калісьці бывае.
Сёння жнівень яшчэ — не кастрычнік
і не лістапад.
Дый зязюля мая, хоць і меней,
ды ўсё-ткі кувае.
Значыць, рана шчэ ныць: спраў і вершаў
наперадзе шмат!

***

Сябры мае, самочуся без вас,
Жыву ў сваім бадзенеўскім Эдэме,
Былыя дні прыгадваю не раз
І нашых мар няўрымслівае племя.

Сустрэчы, вершы, песень пераззвон
І шчырыя сяброўскія размовы…
Няўжо ўсё гэта, як чароўны сон,
Растане ў золак летні ці зімовы?

І тэлефон суцішыцца-засне,
Паверыўшы ў паспешныя развіты?
Ды толькі веру: так не будзе, не,
Яшчэ для нас дарогі ўсе адкрыты.

Яшчэ для нас і соснаў гамана,
І раўчукоў лясное булькатанне,
І песня салаўіная — адна, —
Якая нас разбудзіць на світанні…

Сябры мае, самочуся без вас
І сам прытым нясмела спадзяюся,
Што й вы таксама у вячэрні час
Чакаеце, калі я ў Мінск вярнуся.

***

Я думаў, што ты забылася,
А ты, нібы сон, збылася,
У сэрца маё ўсялілася,
У мары мае ўжылася,

Бы казка спакусна-дзіўная,
Што скончыцца не жадае,
Апошняя і адзіная,
Няўрымслівa-маладая.

Сваёй недасяжнай цнотаю
Мяне ты і сёння грэеш,
Джаконда мая самотная,
Я веру, што не старэеш.

Я веру, што ты шчаслівая,
Сваю саграваеш Меку,
Як сонейка зіхатлівае,
Якому свяціць давеку.

І хоць мы з табой не вечныя,
Мо стрэнуцца сцежкі ў полі…
Як калісь, у дні сустрэчныя,
Жадаю Святла і Долі.

***

А мы на потым адкладалі
І пацалункі, і абдымкі.
Яшчэ, здавалася, паспеем
І накахацца, і пажыць.
Дык што ж сягоння мы святкуем
Кахання нашага дажынкі
У гэты час перадсвітальны,
Што лёгкім дожджыкам імжыць?

Канечне, гэта несуцешна,
Так невыносліва-балюча,
Хоць для цябе, магчыма, дробязь
(Чаму тут, быццам бы, балець!).
Няўжо такое — шарагова?
Няўжо такое — немінуча?
Яшчэ, здавалася, не позна
Паразумнець і пасталець.

Але ж дурныя мы, як дзеці,
І разышліся так няўклюдна,
Што нат надзеі на вяртанне
Мы не пакінулі зусім.
Чаму ж так сёння адзінока
Ў натоўпе гэтым мнагалюдным
І нават вера затухае
У прадчуванні сцюжных зім?



Фота Кастуся Дробава.

## Яўген ХВАЛЕЙ



# Хронас-Нёман*

Прыйду на берагі твае крутыя,
Дубоў дзе караніцца род,
Дзе хвалі срэбна-залатыя
Калышуць памяць, як чарот.

Рака мая, праз дні мае вірогныя
Бяжыш — твой разумею спех...
Ды недзе там, за выдмай, паваротам,
Прыпыніш, як і я, на хвілю бег.

Нам ёсць над чым падумаць...
Бо стагоддзі
Плылі табой, нібы варагі ў грэкі.
Легенды, што былі ў маім народзе,
Жывуць часцей там,
дзе крынічаць рэкі...

Ты рушыш зноў — рака жыцця і часу, —
Аддаўшы плынь гарэзу-быстраку.
І доўга буду я з маімі днямі разам
Рукой махаць, праводзячы раку...

*Хронас — рака часу (з грэчаскай). Так называлі Нёман у старажытнасці.

# Белавежская пушча зімой

Белая вежа...
Пружаны, Ружаны
І Камянец — думнай пушчы вянец —
Снежнаю казкаю зачараваны,
Як налібоцкі мой Івянец.

Мецяць у неба срэбныя сосны —
Вечнасці постаці ў пушчы самой.
Дубу-асілку пад веяй і сонцам,
Бы волату-зубру,
не страшна зімой.

Горды гарбун стаіць на дарозе
З белай, у снезе, даўгой барадой,
Што аж зайздросна Дзеду Марозу —
Ён з рэзідэнцыі выйшаў сваёй.

Вокам акінуў пушчанскія далі,
Глянуў на зубра —
І ён жа як ззед:
Колькі турыстаў яго сустракалі
На белавежскай гэтай вярсце!

Пушча, як пухам, абсыпана снегам...
Сэрца імкнецца ў слаўны куток
Не па сумётах — воблаках, небе —
З бору за Нёмнам,
з-пад Налібок.

# Дарога на Стоўбцы

Ля гэтай дарогі удых мой быў першы —
На хутары ў хаце Котры-бабулі.
Еду цяпер па шашы,
іду пешшу —
Няма больш бабулі,
няма і матулі...
Няма тае хаты,
нямашака саду,
Толькі жыта хіснецца прыбой,
Толькі сум-жаль ялінак-прысадаў,
На іголках зялёных — мой боль.
Забяру, панясу яго ў сэрцы —
Хай жывічнаю кропляй дрыжыць...
Я з сабою змог тут сустрэцца,
Нібы з маці на роснай мяжы.

# Прозвішча

Казіміру Камейшу

Мне прозвішча твае нагадвае камель,
Камель сасны пушчанскай каля Кромані.
Ад характва ляснога ты нямеў
Пад выскаю смарагдаваю кронаю.

Я разумею гэты дзіўны стан душы —
Не раз і сам маліўся ў лесе нема, —
Тым больш калі у сцішанай глушы
Натрапіш ты на баравінны неруш...

Мы — земляні,
Як дрэваў родных камлюкі:
Яднаюць нас лясы, лугі і Нёман.
А вёсачку Малыя Навікі
Я памяняў бы на Камейшы сёння...

## Вольга ШПАКЕВІЧ



# Мая малітва

Зачыню я дзверы у пакоі
І лампадку ў цэмры запалю,
Памалюся шчыра, у спакоі
Я за тых найперш, каго люблю.

За сваіх крыўдзіцеляў — таксама
І за тых, хто ў іншы свет пайшоў,
Памалюся, хто яшчэ да храма
У жыцці дарогу не знайшоў.

І яшчэ — за бедных і нямоглых,
І за тых, каму цяжэй, чым мне,
Хай жа Бог пазбавіць іх ад злога
І спакуса ўсякая міне.

Каб былі ва ўсіх унукі, дзеці,
А ў дзяцей — бацькі, і чым даўжэй,
І каб мір на нашай быў планеце
І штогод зямелька прыгажэй.

Хай жа думка ўзнімецца ў нябёсы,
А душа напоўніцца святлом,
Хай удзячны людзі будуць лёсу:
Маюць хлеб, да хлеба. І жытло...

І гарыць лампадка. Ціха вусны
Славяць Бога, просяць у мальбе
За пявучы край наш беларускі
А ў канцы — за грэшную сябе.

***

Як табе жывецца, маці,
Як здароўе, як настрой?
Што чуваць у нашай хаце,
Сёння ўжо, на жаль, старой?

Выбачай: гасцюю мала,
Час маю сцяжынку сцёр.
За цябе малюся, мама:
За здароўе, за жыццё.

# Вечары зімовыя

Вечары зімовыя —
Аж займае дух,
Бо знайшла замовы я
Ад нягод і скрух.

Хоць вядзе мяцеліца
Ледзяны матыў,
А душа сагрэецца,
Калі побач ты.

Вуснамі мядовымі
Мы каханне п’ём.
Вечары зімовыя —
Казка за акном.



Аляксандр ПАЎЛЮКОВІЧ

# Дваццаць першае чысло

*Апавяданне*

Дзіўна ўладкавана жыццё. Дні і месяцы складваюцца ў гады, якія марудна, а затым, бліжэй да старасці, цякуць усё хутчэй і нясуць нас у раку вечнасці, адкуль ужо няма звароту. Бывае, чалавек за доўгія гады нічога асаблівага не запомніў, а адзін дзень ведае ў дэталях. Незвычайная ці лёсавызначальная падзея адбылася менавіта ў гэты дзень, таму і застаўся ён у памяці назаўсёды. Падчас вайны людзі жылі ў пастаянным страху і трывозе за сваіх дзяцей і самых сябе. Бывала, здараліся такія гісторыі, што сёння цяжка паверыць.

Ішоў апошні месяц перад вызваленнем.

Напярэдадні партызанскія разведчыкі папярэдзілі жыхароў вёскі: блакада хутка, карнікі прачэсваюць лясы і балоты. Самі партызаны, не ўвязваючыся ў вялікія баі, адыходзілі ў напрамку возера Палік. І днём і ноччу вялі разведку, сачылі за ворагам, абстрэльвалі з засад, але весці працяглыя баі не маглі — не было боепрыпасаў, каб стрымаць немцаў. Юнакі з многіх вёсак пайшлі ў партызаны, іх сем'і адыходзілі ўслед за імі. Блакада мінулага года паказала, што карнікі паляць вёскі разам з людзьмі. Усе баяліся, але ж пакі-даць хаты пустымі баяліся таксама. Немцы казалі, што не будуць чапаць жыхароў, а таго, хто ўцячэ ў лес, палічаць партызанам і хату спаляць. Тады дзе з дзецьмі жыць? Родная хата і карова-карміцелька — галоўнае багацце вяскоўцаў…

Вось так трывожна-роздумна і жылі жыхары лагойскай вёскі Папоўцы. Неспакойна было на душы, але цешыла надзея: а раптам уратуемся? Суседнія вёскі немцы прайшлі і не зачапілі, таму і тут не чакалі, што ад паселішча застануцца адны абвугленыя галавешкі...

У ноч перад тым, як палілі вёску, дзіўны сон прысніла пад самы ранак маладая дзяўчына Анюта. Быццам бы памерла яна і бяжыць па дарожцы, абсыпанай жоўтым пяском. Бачыць падвал. Спускаецца па прыступках, адчыняе дзверы і заходзіць. Там — вялікі чорны стол і сівабароды дзед у светлай вопратцы. Перад ім таўшчэзная кніга. Вакол сядзяць жанчыны ў чорным — кожная ў хустцы, перад кожнай гарыць свечка. Ніхто не зірнуў на Анюту. Толькі стары сказаў:

— Чаго ты прыйшла? Сыходзь адсюль! Перажывеш дваццаць першае чысло, то будзеш жыць доўга. Вось тады і прыйдзеш, а цяпер — прэч!

Яна выбегла. І ў той жа момант прачнулася. І нема закрычала.

Маці ўскочыла і падбегла да яе:

— Ай, мамачка, сон вельмі страшны прысніўся. Баюся, што здарыцца з намі штосьці.

Потым трохі супакоілася, распавяла пра сон. Маці збянтэжылася, але выгляду не падала. Спаць болей не хацелася. Разам з мамай сядзелі і разважалі, што гэта за дзень такі — дваццаць першае чысло — і што можа адбыцца.

— Зараз што хочаш можа здарыцца! Столькі людзей ужо загінула. Нам бы блакаду перажыць. Але што Бог дасць — тое і будзе, — сказала маці.

На тым і скончылася размова. Зранку пачалі займацца хатнімі справамі, а сон неяк забыўся. Анюта ва ўсім дапамагала маме — васямнаццаць ужо споўнілася. У сям'і гадавалася яшчэ адна дачка, Наташа, а бацька яшчэ да вайны памёр…

Недалека, па рэчцы, да 1939 года праходзіла мяжа з Польшчай. Вёска стаяла на ўзгорку, а па той бок рэчкі, прыкладна за два кіламетры, — дарога, па якой час ад часу ездзілі немцы з Далгінаўскага гарнізона. Партызанскія назіральнікі, бывала, залазілі на высокае дрэва ці на дах дома і сачылі за перамяшчэннямі немцаў. І вось бліжэй да абеду нечакана пачуліся стрэлы — па нямецкай калоне, якая ішла па дарозе. Пацэліць з такой адлегласці было цяжка, і ніякіх страт немцы не панеслі. Але ж ніхто не падумаў, якія наступствы пасля гэтых стрэлаў могуць быць для вёскі.

Немцы, відаць, у бінокль убачылі, што стральба вялася з паселішча, і вырашылі: партызаны! Падышлі бліжэй, пачалі абстрэльваць вёску з мінамётаў. Жыхары ў паніцы пабеглі хавацца ў лес непадалеку. Там жа хавалі коней і кароў, вопратку і тое-сёе з ежы — жыта, пшаніцу, сухары. Тым часам некалькі мін трапіла ў дамы. Ад узрываў разваліліся печы, пачаўся пажар. Загарэлася і стайня. Вяскоўцы ўцякалі, наўкола свісцелі пулі і разрываліся міны.

Праз некаторы час абстрэл скончыўся. Юнакі залезлі на дах і ўбачылі, што калона нямецкіх салдат рухаецца ў напрамку вёскі. Трэба ўцякаць: калі немцы абстралялі вёску, нічога добрага не чакай... Вярнуліся ў вёску толькі дзве жанчыны: пяклі хлеб, хацелі забраць з печы. Тут якраз і прыйшлі немцы. Жанчыны схаваліся пад печ. Там іх потым і знайшлі… Усе трыццаць сем хат згарэлі дашчэнту.

Што да жыхароў… Хто на возе, да якога прывязалі карову. Некаторыя пешшу, вузельчыкі за плячыма. У першую ноч спыніліся ў лесе, недалёка ад вёскі, бачылі, як гараць родныя хаты, але на папялішча ісці пабаяліся. Ноч правялі ў лесе.

Анюціна маці распавяла суседзям і сваякам пра даччын дзіўны сон. Але ж пры чым тут дваццаць першае чысло? Яно яшчэ не наступіла…

Назаўтра ранкам прыйшоў сваяк Антось. Аказалася, калі палілі вёску, ён залез на вялікую елку на ўскрайку лесу, недалека ад дамоў. Бачыў, як немцы рабавалі пакінутыя хаты, а потым падпальвалі. Хадзілі з сабакамі, але тыя Антося не пачулі, бо па зямлі слаўся сівы дым, які перабіваў пах.

У вёску болей не вярталіся, вырашылі ехаць услед за партызанамі: тыя ведалі, куды лепш адыходзіць. Блакада наступала. За некалькі дзён бежанцы апынуліся ў лесе недалёка ад Бягомля. Пад Бягомль ехалі на вазах, вялі кароў. Дзеці плакалі, і гэта было небяспечна: плач мог прыцягнуць увагу немцаў. Некаторыя паехалі самастойна — з надзеяй, што адной сям'і схавацца лягчэй. Нехта з мясцовых падказаў: тут — глухое балота, куды немцы наўрад ці пойдуць. Дзе-нідзе быў і лес. Стаяў чэрвень. Бярозкі, балотная трава — было дзе схавацца ад нямецкіх самалётаў, якія днём адсочвалі перамяшчэнні партызан. Па жэрдках прайшлі ўчастак балота і спыніліся ў лесе. Там начавалі, мабыць, з тыдзень. Заядалі камары, але горшым за іх быў голад…

Тым часам надышло дваццаць першае чэрвеня. Зранку мужчыны пайшлі ў разведку на край балота. Было чуваць, як размаўлялі немцы — відаць, не хацелася лезці ў балота, вось і думалі, што рабіць.

Людзі сядзелі ў трывожным чаканні: уцякаць ужо не было куды. Дзень сонечны, станавілася горача, і хаваліся пад дрэвы. Хацелася піць — бралі ваду з балота. Працэджвалі праз хустку, пілі самі і паілі дзяцей. Вакол брахалі сабакі, чуліся стрэлы: немцы прачасалі лес да самага краю балота. Але ніхто не адстрэльваўся. Відаць, таму ў балота немцы не пайшлі, а сталі закідваць лес мінамі і абстрэльваць кулямётамі ды вінтоўкамі. Анюта помніла пра свой сон. Калі пачаўся абстрэл, зразумела: цяпер вырашаецца яе лёс...

Кажуць, што пад бомбамі, мінамі ці артылерыйскім абстрэлам нават атэісты звяртаюцца да Бога, каб выратавацца. Калі небяспека праходзіць — усё забываецца. Але некаторыя пачынаюць шчыра верыць, што Бог іх уратаваў. Нечакана абстрэл закончыўся. Немцы вырашылі, што нікога жывога не засталося, таму і балота не прачэсвалі.

Пад вечар хтосьці сказаў, што карнікі сышлі і можна выходзіць з лесу. Людзі і плакалі, і смяяліся: абмінула іх страшная доля! Жартавалі, успаміналі прарочы сон. Усё збылося!

— Шчаслівая ты, Анюта! Цябе Бог уратаваў. І мы з табою разам уратаваліся, — гаварылі тады людзі.

Пайшлі ў найбліжэйшую вёску, якую карнікі не зачапілі. Там памыліся, паелі. Праз некалькі дзён вярнуліся на папялішча...

Мінулі дзесяцігоддзі. Сёння Ганне Марцінаўне ўжо пад 90, але той сон і той дзень яна помніць, быццам гэта было ўчора. А бывае, прачнецца сярод ночы: стаіць перад вачыма вёска, яшчэ тая, даваенная — з невялікімі драўлянымі хатамі, калодзезнымі жураўлямі, пахілым плотам і вузкай дарогай. Небагатая, але такая родная...



Анатоль КАРАЛЕНКА

# Лёс Марыі

*Казка-быль*

Жыла на свеце дзяўчынка Машачка. Падрасла, стала красуняй. Сустрэла хлопца Мішу, і яны пакахалі адно аднаго.

— Калі ён пайшоў у армію, — успамінала пазней Марыя, — праз нейкі час чамусьці перастаў пісаць, і нашы адносіны перапыніліся. Мінула тры гады, але ад яго так і не было аніякай вестачкі. Як згінуў. Мне казалі, што Міша знайшоў другую і ажаніўся. І тады я выйшла за хлопца Пецю. Мужа я не любіла, хоць у нас ужо гадавалася двое дзяцей. Жылі дрэнна, без кахання. Каб даведацца, што мяне чакае, пайшла да цыганкі-варожкі. Яна загаварыла адразу:

— Не свой лёс ты знайшла, красуня. Лепш табе разысціся з нялюбым і не пакутаваць. А сваю палавінку ты сустрэнеш праз пятнаццаць гадоў.

— Можа, мне прасіць Бога? — спытала я ў варожкі. — І маліцца. Каб раней гэта здарылася, гадоў праз пяць або дзесяць.

— Не, красуня, — сказала цыганка. — Карты падказваюць, што шчасце тваё прыйдзе праз пятнаццаць гадоў. А цяпер ідзі з Богам і чакай сваё шчасце.

Пайшла дадому з вялікай неахвотай. Першым не вытрымаў сямейных пакут муж Пятро. Кінуў і назаўсёды пайшоў да іншай абранніцы. Засталася адна гадаваць сыноў. Было цяжка, роспачна, але ўсё вытрымала. Сыны выраслі, завялі сем'і і і разляцеліся хто куды. Толькі радавалі, калі ў госці з унукамі прыязджалі.

...Была вясна. Усюды пышна цвілі сады, ярка свяціла сонейка, весела шчабяталі птушкі, зеленелі палі, апрануўся ў лісце лес. Марыя глядзела на ўсё гэта хараство, а сэрца падціскала нейкае невядомае пачуццё: ці то радасць, ці то туга. Быццам нешта прадчувала, нечага чакала. І аднаго дня ў дзверы дома, дзе жыла адзінокая Марыя, нехта ціхенька пагрукаў. З вялікім хваляваннем яна адчыніла дзверы: перад ёй стаяў не дужа малады, але прыгожы, бравы капітан і ўважліва глядзеў.

— Вам каго? — спытала, чырванеючы ад неспадзявання.

— Я прыйшоў да цябе, Марыя. Я той самы Міша. Можна прайсці?

— Ідзі адсюль! — не выслухаўшы нечаканага госця, закрычала Марыя. — Я цябе не хачу ні ведаць, ні бачыць. Ты кінуў мяне. Дзе ж ты быў так доўга?

І заплакала горкімі слязьмі.

— Я не вінаваты, Машачка. У арміі я скакаў з парашутам і няўдала прызямліўся. Два гады правёў у шпіталях. Потым, падлячыўшыся, вярнуўся на ваенную службу. Таму столькі часу і маўчаў. Не веры́ш, што ты яшчэ чакаеш мяне. А цяпер я здаровы і халасцяк. Дазволь прадставіцца! Опля-ля! — прытупнуў ён нагамі і прайшоўся лёгкім чаканным крокам туды-сюды па ганку. — Я той самы Міхаіл, капітан у адстаўцы.

Вайсковец шчоўкнуў абцасамі, сваволна бліснуў вачыма, аддаў ёй чэсць і, працягнуўшы рукі, абняў разгубленую Марыю і пацалаваў. Ад шчасця, што нечакана нахлынула на яе, яна заплакала і… таксама пацалавала свайго каханага, а потым спытала нібы ў нейкай злосці:

— А чаму ты, Міша, раней да мяне не прыйшоў? Ты — нягоднік і мучыцель, ты здрадзіў мне.

— Я прыязджаў да цябе, Марыя, калі ты жыла з мужам і дзецьмі. Але твой брат не пусціў на парог. Выгнаў мяне і сказаў, каб не ламаў тваё сямейнае жыццё і сюды больш не вяртаўся. Тады я пайшоў, а цяпер — дзень добры, каханая!

Неўзабаве яны зладзілі вяселле. Зажылі дружна, у каханні. Быццам і не было доўгіх гадоў расстання і пакут. А потым у іх нарадзілася дачка — абодвум на радасць і ўцеху. Назвалі Аляксандрай.

— Мы з табой, Марыя, як шчаслівыя зоркі, на блакітным небе побач з сонейкам, — неяк заўважыў радасны Міхаіл, абдымаючы жонку.

— А што гэта такое — зоркі? — быццам не разумеючы яго, пацікавілася яна.

— Чалавек, Марыя, падобны да пентаграмы — пяціканцовай зоркі. Гэта сімвал дасканалага чалавека, які стаіць на двюх нагах з разведзенымі рукамі, нібы абдымаючы зямны шар. Зоркі жывуць, між іншым, побач з Богам.

— А яшчэ, дарагі мой Міша, у гэтай нашай казкі — шчаслівы канец, які ўсяму вянец. Давай доўга жыць, здаровымі быць і радавацца ўсяму, што Бог нам даў. Ты згодны са мною?

— Пастой, пастой, Машачка, наша казка яшчэ не скончана, — сказаў Міхаіл. — Паглядзі, на зорным небе свецяцца дзве планеты. Гэта я — ружовы прынц Марс, а ты — мая серабрыстая прынцэса Венера. Бачыш іх? Цяпер зірні ву-у-нь туды. Зорачку бачыш? Яна ў тым куточку неба не такая, як усе. Яна там толькі адна такая — мігатлівая-мігатлівая і, як васілёк, блакітнаю адсюль здаецца.

— Бачу, — зачараваная летуценнасцю мужа, шэптам прамовіла Марыя, углядаючыся ў таямнічую вышыню вячэрніх нябёсаў. — Можа, ведаеш, як гэту незвычайную зорачку завуць?

— Канечне, ведаю, — з хітрынкаю ў голасе адказаў Міхаіл. — Скажу больш: ты, Маша, таксама ведаеш.

— Я? — ледзь не ўсклікнула Марыя.

— Ты, даражэнькая, ты, а хто ж яшчэ? — пяшчотна абняў яе за плечы Міхаіл. — Бо гэту мілую зорачку завуць… Аляксандрай. Ці, як табе падабаецца, — Сашачкай…

# Абліччы кахання

## Чым сугучныя рамансы і фота з глыбінкі?



Фота Віктара Ведзеня.

Адзін з разваротаў кнігі «Каб аднойчы».

**Паэт Рыгор Барадулін і бард Алесь Камоцкі доўгі час былі сябрамі. Вынікам творчага супрацоўніцтва пачатку 1990-х гадоў стаў цыкл выкшталцоных рамансаў. «Мы сышліся на думцы, што ў нашай культуры нестае беларускіх рамансаў, і пісалі іх ледзь не штодня», — згадвае Алесь Камоцкі. Упершыню пачуць усе дваццаць рамансаў можна дзякуючы выдавецтву «Паперус».**

«Каб аднойчы» — гэта «магія паэзіі Рыгора Барадуліна ў нізцы лірычных песень Алеся Камоцкага, аздобленая фотаздымкамі Джона Кунстадтэра». Як адзначыў рэдактар Міхась Башура, падчас прэзентацыі падрыхтаваны праект мае фармат «чатыры ў адным». Акрамя вершаў, фота і песень на дыску ў кнізе змешчаны і ноты. Нялёгка вызначыць, які складнік найбольш істотны, што падкрэсліваецца і адваротнай (умоўнай) нумарацыяй старонак.

Паводле гісторыі праекта, Рыгор Барадулін пісаў вершы менавіта як тэксты для рамансаў і, адпаведна, кіраваўся патрабаваннямі жанру. Раманс раскрывае любоўнае перажыванне, мае лірычны настрой і паўстае як зварот да блізкай асобы. Узрушанае прызнанне, радасць шчаслівага кахання, смутак па нясправджаных надзеях, згадкі пра колішнія, больш моцныя пачуцці — дзякуючы Рыгору Барадуліну і Алесю Камоцкаму на кожную жыццёвую сітуацыю можна знайсці адпаведны раманс.

Раманс — гэта таксама гімн каханню: альтруістычнаму і глыбокаму (агапэ), паглынальнаму і жарснаму (манія), светламу і пяшчотнаму (сторгэ). У вершах Рыгора Барадуліна выяўляюцца розныя тыпы кахання, але радасць жыцця заўсёды ставіцца ў непасрэдную сувязь са спагадай абранніцы:

*Я ёсць таму, што Вы былі са мной,*
*Што ў думках Вас я называў сваёю.*

Прачулыя і ўзнёслыя рамансы Алеся Камоцкага нагадваюць упадабаныя многімі песні на вершы Уладзіміра Караткевіча. Менавіта з такімі пачуццямі варта прамаўляць чароўныя словы, якіх бракуе ў рэальным жыцці і якія так патрэбны жанчыне, каб адчуваць сябе княгіняй харраства:

*Як маладзік я сірацеў,*
*Высока зорыліся Шалі,*
*Я Вашым ценем быць хацеў,*
*А Вы мяне не заўважалі.*

Якія ілюстрацыі арганічна глядзеліся б побач з такімі вершамі? Уяўляецца палац, прыгажуня і мройны юнак, але на фотаздымку побач з тэкстам — усмешлівыя дзядуля і бабуля, якія сядзяць на ганку сваёй хаты. Дзверы падпёртыя шчоткай, на сцяне — іржавая паштовая скрыня, ля прыступак — самаробны венік.

Амерыканскі фатограф Джон Кунстадтэр здымаў у пяцідзесяці краінах свету, на працягу дзесяці гадоў стала наведвае Беларусь. Штогод каля дзевяноста дзён ён праводзіць, фатаграфуючы беларускую глыбінку. «Адрозненне паміж паэзіяй, песнямі і маімі фота — толькі ў рознасці хваляў. Беларускія песні і вершы натхнялі мяне на фотаздымкі», — адзначыў на прэзентацыі спадар Джон. Але чорна-белыя фота беларускіх сялян побач з вершамі Барадуліна спачатку могуць крыху здзівіць. Бо вяскоўцы сталага веку ва ўяўленні сучасных беларусаў наўрад ці ўвасабляюць узор выкшталцонага кахання.

І раптам кніга спыняе мноствам пытанняў. Якім было каханне для вяскоўцаў, чыё дзяцінства ці юнацтва прыпала на пасляваенныя гады? Якія словы ўжывалі яны, каб выказаць прыязнасць і душэўную цеплыню? Калі знаходзілі час для пяшчоты і чулай размовы? Асобны фотаальбом ці нізка вершаў Рыгора Барадуліна не выклікалі б такога ўражання, як адмысловае спалучэнне выяў і тэкстаў.

Здымкі Джона Кунстадтэра, зробленыя ў жанры дакументальнага фота, разглядаць можна доўга, знаходзячы ўсё новыя дэталі. Абавязкова квяцістыя фіранкі ў хатах, наручны гадзіннік як галоўнае ўпрыгажэнне, ніякіх заручальных пярсцёнкаў... Магчыма, менавіта пачуцці працавітых людзей, якіх ніколі не песціла жыццё і якія пражылі разам дзясяткі гадоў, — тое шчырае і моцнае каханне, вартае самых узнёслых радкоў. Бо каб у складаных абставінах застацца бадзёрым і ўпэўненым, захаваць зычлівасць і прыветную ўсмешку, патрэбна нямала духоўных сіл і дабрыні. Узнёсласць песень Алеся Камоцкага выяўлялася для герояў Джона Кунстадтэра хутчэй не ў словах, а ў клапатлівым і далікатным абыходжанні з блізкім чалавекам. І фотаздымкі зусім не кантрастуюць з тэкстам — хутчэй нагадваюць пра блізкае, але чамусьці нязвыклае для нас абліччa кахання.

Здымкі Джона Кунстадтэра — гэта разынка, якой так часта бракуе выдавецкім праектам. Бо некалькі дакументальных фота нагадваюць пра значныя рэчы не горш за доўгае эсэ. Вытанчаныя вобразы, рамантычны настрой, характэрнае беларускае ўвасабленне кахання — самому Рыгору Барадуліну гэта кніга дакладна б спадабалася...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Чытаць і спяваць

**Песні ў гонар народнага паэта Беларусі выканалі маладыя музыкі ў канцэрце, які адбыўся ў Белдзяржфілармоніі.**

***Тлумачыць Сяргей Доўгушаў, гурт Vuraj, аўтар праекта «Песні матчыны з Вушаччыны»:***

— Гэтая праграма — як бы падарунак да дня нараджэння Рыгора Барадуліна. Летась мы таксама ладзілі канцэрт: спачатку адзначылі свята ў Мінску, а потым паехалі ў Оршу, у музей Караткевіча (лічы, з'ездзілі да яго сябра). З «Песнямі…» мяркуем выступаць і ў іншых гарадах — Полацку, Віцебску, словам, адзначым свята на поўначы Беларусі. Хочацца гэты праект развіць, запішам плыту з усімі гуртамі — удзельнікамі праграмы, далучым голас маці Барадуліна і яго самога…

Галоўная для нас задача — даць новае жыццё народнай песні. Рыгор Іванавіч падарыў мне ў свой час кніжачку, якая так і называецца: «Песні матчыны з Вушаччыны». Уласна некалькі месяцаў знаёмства з Барадуліным, у апошні год яго жыцця, і натхнілі на стварэнне праграмы. Часта мы бывалі ў яго ў гасцях усім гуртом; аднойчы *Vuraj* нават зладзіў для яго канцэрт.

Уражанні ад гэтага знаёмства моцна паўплывалі на мой далейшы творчы шлях. Не таму што «вось, ён такі славуты паэт», не: гэта былі глыбінныя ўражанні, ён моцна закрануў мяне як чалавек, у нечым змяніў. Для мяне ён быў не народным паэтам, але чалавекам, споўненым святла. Святы чалавек, можна сказаць.

Я апошнім часам скупляю ўсемагчымыя зборнікі Барадуліна. Яго творчасць, як самое жыццё, не перачытаць. Нельга проста прагартаць яго вершы, ад коркі ад коркі, адкласці і забыць: пастаянна да нечага вяртаюся, адкрываю пэўны зборнік пад настрой… Цікавая таксама дзіцячая тэма, тая ж кніга «Выпаў грук у грома з рук». Ёсць думка зрабіць праграму на дзіцячыя творы Барадуліна. Але што да вершаў увогуле, я хачу напісаць музыку на самыя блізкія мне, улюбёныя, але пакуль не бяруся: гэта вельмі складана — яны самадастатковыя.

# «У неба пехатою»

## Два гады без Барадуліна

**Сёлета мы адзначаем 81 год з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Гэта быў інтэлігент, знаўца чалавечай душы, сапраўдны волат беларускага слова. Ёсць і іншая, чорная, дата: 2 сакавіка — два гады, як Рыгор Іванавіч пайшоў ад нас «у неба пехатою». Гэтыя словы не проста назва апошняга зборніка вершаў паэта — гэта сэнс жыцця Рыгора Барадуліна.**

Ён ніколі не імкнуўся быць вышэй за свайго субяседніка, баяўся пакрыўдзіць чалавека неасцярожным словам. Сёння такія адносіны паміж людзьмі — рэдкасць. У Рыгора Іванавіча можна было вучыцца культуры зносін. Ён быў сапраўдны народны паэт, і калі б яму не прысвоілі гэтае ганаровае званне, яно б у яго ўсё адно было.

Павага, пашана і любоў — вось крытэрыі жыцця і творчасці паэта. Адсюль — духоўнасць і ўзнёсласць радка, яго беларускага слова. І ў апошнім зборніку Рыгор Іванавіч не здрадзіў сабе. Думаецца, гэты верш не проста даў назву апошняму зборніку паэта, а падвёў своеасаблівую рысу пад усім зробленым і пражытым:

### У неба пехатою

*З незагаворлівага кірмаша,*
*Дзе чужыя гандляры і цэны,*
*Любіць беларуская Душа*
*Ад спякоты*
*Затуліцца ў цені.*

*Свой сакрэт у мудрага каўша*
*Поўнага цудоўнага напою.*
*Пойдзе беларуская Душа*
*Да настрою ў неба пехатою.*

*Хопіць смаглавогнішчу*
*сушша,*
*Каб абсяг не спавядаўся золі.*
*Бачыць беларуская Душа,*
*Як заўсёды рупіцца ніколі!..*

9.XII.2013

Глыбіня і сапраўды народная мудрасць бачныя і ў яго вершах пра смерць. Пра яе Барадулін пісаў гэтаксама прыгожа і з гумарам.

***

*І ў смерці*
*Ёсць любімчыкі свае,*
*Але яна*
*Прылашчвае па-свойму —*
*Калі ўжо ашчаперыць*
*у абдоймы,*
*Ні жыць, ані памерці не дае.*

*Любімчык просіць,*
*Каб яго забрала*
*Смерць да сябе,*
*А ёй увагі мала...*

У маёй памяці Рыгор Іванавіч застаўся жартаўлівым чалавекам з вясёлым позіркам і неад'емнай усмешкай. Я ніколі не бачыў яго іншым.

### Як Храм...

*Паэт будуе сам сябе, як храм*
*Ці як пахіленую халабуду.*
*У храме весялей адбыцца цуду,*
*У халабудзе вылежыцца хлам.*
*На твары неба бліскавічны*
*шрам*
*Заные, адчуваючы астуду.*
*Набожна ўкленчыўшы эцюду*
*цуду,*
*Паэт будуе сам сябе, як храм.*

Але не толькі паэт «будуе сам сябе, як храм», але і кожны чалавек павінен так ставіцца да сябе і свайго лёсу. Гэты верш заклікае заўсёды ісці наперад.

Апошняй прыжыццёвай кнігай Рыгора Іванавіча стаў «Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна». Менавіта так трэба складаць слоўнікі! У гэтай нязвыклай для паэта справе ён аказаўся на вышыні, не ўмеючы працаваць па прынцыпе «абы з рук».

У 1960 годзе пачынаючы паэт Рыгор Барадулін сустрэўся са старэйшым паэтам Уладзімірам Дубоўкам. Гэтая сустрэча стала для Рыгора Іванавіча падарункам лёсу: ад славутага творцы ён атрымаў каштоўныя настаўленні, якіх трымаўся ўсё жыццё. А больш чым праз 30 год творчасць Уладзіміра Дубоўкі звяла мяне з Рыгорам Іванавічам. Няхай прамоўленае будзе яму падзякай за тыя веды, за жыццёвыя ўрокі і за «зялёнае святло», якое ён запаліў перада мною ў літаратурны свет.

**Зміцер ДАВІДОЎСКІ**

# Паэтычны хай-тэк Кацярыны Массэ




**Літаратурнае жыццё ў сталіцы апошнім часам не тое, што не спіць, — віруе. Афіцыйныя прэзентацыі і андэграўндныя вечары матывуюць прызнаных творцаў не бранзавець, а маладых літаратараў — выйсці на шырокі прастор, пазбавіцца штампаў школьнай праграмы і кінуцца на пошукі новых форм, сэнсаў і ўласнага голасу.**

Яскравы таму прыклад — Кацярына Массэ. Маладая паэтэса, якая ў 18 год стала сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі, спрабуе сябе ў розных паэтычных напрамках, піша класічныя, авангардныя, візуальныя вершы. «Аўтакамунікацыя» — першы зборнік на беларускай мове.

Яшчэ сотню гадоў таму авангардысты актыўна выкарыстоўвалі ўсе даступныя сродкі для стварэння паэтычных твораў, дайшлі нават да вакуумнай паэзіі — адсутнасці слоў у вершы. Але цяпер, калі магчымасці настолькі разнастайныя, усе быццам страцілі цікавасць да формы, і толькі некаторыя аўтары працуюць над уласнай, пазнавальнай ці нетрадыцыйнай падачай матэрыялу. Таму вершы Кацярыны Массэ не могуць застацца незаўважанымі. Паэзія з моцнымі вобразамі, насычаная цытатамі і алюзіямі, з напружанай інтанацыяй і філасофскім роздумам. Паэзія максімалісцкая, якая адпрэчвае загалоўныя літары, часам больш сканструяваная, чым прачулая, часам больш эмацыянальная, чым выверaная. Калі ж да яе дадалася энергетыка беларускай моўнай стыхіі, вершы зайгралі новымі адценнямі і падтэкстамі.

*Мне споўнілася васямнаццаць*
*тысяч*
*слоў,*
*бо ў паэта замест лёсу —*
*лексікон.*
*Я не раблю высноў,*
*ці многа мне яшчэ іх засталося,*
*але малюся*
*богу сваёй мовы,*
*каб дапамог дажыць*
*да самага галоўнага*
*з усіх ужытых мною*
*Слова.*

Што да лексікі, то тут ёсць невялічкія хібы — шмат якія словы Кацярына паўтарае з верша ў верш. Напрыклад, слова «сусвет». Калі спачатку яно не прыцяг-вала ўвагу і ўспрымалася гармanічна, то ўжо напрыканцы кнігі лексема атрымлівае трывіяльную афарбоўку. Ці то маладой літаратарцы пакуль яшчэ не хапае слоўнікавага запасу, ці то яна ніяк не можа сфармуляваць свае думкі і дакладна іх выказаць, але пры захаванні тых жа сэнсавых канфігурацый хочацца ўсё ж разнастайць форму. Тое самае са словам «Бог». Яго, безумоўна, складана памясціць у іншую вербальную абалонку, але можна. Калі раскручваць вобразы, капаць глыбей, тады гэтых відавочных і неапраўданых лексічных паўтораў можна і пазбегчы. Магчыма, пакуль Кацярыне Массэ гэта не ўдаецца праз узрост і невялікі пісьменніцкі досвед, але варта сказаць, што якасць вершаў няспынна расце.

*Калі не разумееш Бога логіку,*
*шукай яе ў тлумачальным слоўніку.*
*Этапаў кармы спіс храналагічны*
*змяшчае слоўнік этымалагічны.*
*Пра шчырае, бясконцае каханне —*
*да слоўніка сінонімаў пытанне.*
*Ці правільна жывеш, ці гарманічна,*
*адкажа табе слоўнік граматычны.*
*Але, магчыма, ты з такіх*
*назоўнікаў,*
*што самі сабе пішуць слоўнікі.*

Паэзія Кацярыны Массэ вельмі асабістая, шчырая, эмацыянальная. Такія вершы прывабліваюць у першую чаргу не сэнсам, а формай, задавальняюць эстэтычныя патрэбы чытача. Свайму чытачу Кацярына прапаноўвае паглядзець на свет яе юнымі вачыма, адчуць яе эмоцыі і перажыванні, падзяліць радасць і роспач. Часта вельмі складана з першага прачытання зразумець сэнс нейкага верша, але дакладна можна адчуць па камбінацыі слоў, па фанетычным складніку пачуцці лірычнага героя, якія з'яўляюцца прамым адлюстраваннем эмоцый аўтара. І гэта натуральна для маладой паэзіі, калі на першы план выходзіць эстэтыка, сэнс — другаснае.

Не абышлося ў паэзіі Кацярыны Массэ без тэмы мовы, радзімы, бо гэтыя словы прама ці ўскосна прысутнічаюць у любым беларускамоўным вершы. Магчыма, таму, што яны на працягу стольківіх гадоў заставаліся для нас балявымі кропкамі і замацаваліся ўжо на генетычным узроўні. І гэта зусім не недахоп, бо Кацярына не піша пра мову і радзіму прамалінейна, яна проста і зразумела расстаўляе акцэнты, шчыра выказвае свае думкі.

*Я злева: пішу ў паветры класічную*
*фрэску.*
*Ты — справа: ставіш лэптоп*
*на загрузку*
*і кажаш мне штосьці па-нямецку.*
*А я маўчу.*
*Па-беларуску.*

Вершы Кацярыны Массэ гучаць як суцэльная аўтарская рэфлексія, накіраваная на вывучэнне ўнутранага свету і пошукі свайго месца ў неспакойным свеце. Будзем спадзявацца, што Кацярына знойдзе сваё месца ў літаратуры, яе вершы стануць яшчэ больш глыбокімі і застануцца такімі ж прыгожымі.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Дробныя хуліганствы рамантыка

**Калі пішаш рэцэнзію на кнігу, пачуваешся трохі дэтэктывам. Альбо доктарам. Словам, робіш нейкую выснову (памятаючы пра яе ўмоўнасць), ці ставіш «дыягназ», а потым аўтар сам жа яе пацвярджае, падкідваючы розныя доказы. Вось, прыкладам, дэбютная кніга Мікіты Найдзёнава: «Развітанцы», нягледзячы на сваю безумоўную арыгінальнасць, пакідаюць уражанне невыноснай лёгкасці быцця.**

І ўрэшце аўтар кажа пра гэта сам, прычым наўпрост: «*лепей, калі іранічна*», а на развітанне падае верш, якім кніга магла б адкрывацца: «*Я шчыры: мне дваццаць чатыры, / і ўсё цікавае — далей*». У кожным яго тэксце пануе безаглядная маладосць, прага жыць і адчуваць, нават калі пачуцці гэтыя ўчыняюць боль.

Сярод іншых дэбютных кніг «Развітанцы» вылучаюцца небанальнасцю і смеласцю, якая, што праўда, можа дайсці да мяжы прыстойнага і пераступіць яе. Па праве дзёрзкай маладосці яно, вядома, дазвальняльна. Па строгіх правілах мастацтва, сур'ёзнай, сталай паэзіі — наўрад. Але гэтак жа наўрад ці Мікіта Найдзёнаў хацеў быць сур'ёзным. Калі «судзіць» аўтара па яго правілах, што лічацца найбольш гуманным падыходам, кніга атрымалася якраз такой, якой мусіла быць: гучнай, каламбурыстай, лёгкай для вока і розуму (збольшага яна і не закранае розум — уздзейнічае на пачуцці, выклікаючы ў кожнага свае ўспаміны).

Пра ўласныя душэўныя драмы малады аўтар гаворыць з іроніяй, свядома адмяжоўваючыся ад глыбокіх перажыванняў. Што ўвогуле сімптаматычна для юнацтва. Па «Развітанцах» аўтару не дасі дваццаць чатыры гады: збольшага ён падобны да поўнага сіл і мараў падлетка. У часы «Маладняка» Мікіта Найдзёнаў стаў бы неблагім «бурапенцам». Гульня з пачуццямі (часам нават сапраўднымі), гульня ў літаратуру.

У сувязі з усім сказаным згадваецца гісторыя, што мела месца падчас пасяджэння суполкі «Літаратурнае прадмесце». Адзін з удзельнікаў суполкі, цяпер паэт з неблагой кніжкай, чытаў вершы. У выніку Наталка Кучмель сказала нешта кшталту: калі пішаш верш, трэба імкнуцца падняць вялікі камень, прыкласці намаганні, аддаць усе сілы; ты ж падымаеш маленькі каменьчык і кідаеш яго.

З іншага боку, непатрабавальнага чытача вабіць лёгкасць, неабцяжарвальнасць, дынамічнасць радкоў, напісаных нібыта адразу на музыку (што таксама не выключана, калі ўлічыць, што аўтар — музыка). Магчыма, варта было б выдаць менавіта зборнік тэкстаў песень, у дадатак да кружэлкі.

Звернемся да зместу. Пра яго многае скажа вокладка зборніка, праўда, лагічней было б, каб дзяўчына трымала ў руках галаву хлопца. Наш аўтар застраг у пакутлівых, невырашальных рамантычных адносінах, і збольшага ўсе яго тэксты — бег па коле, з якога ён быццам бы хоча вырвацца. Быццам бы, бо гэтая гісторыя без магчымасці паставіць кропку яму відавочна даспадобы. Эрых Фром мог бы скарыстаць такія тэксты для ілюстрацыі да кнігі «Мастацтва кахаць», у раздзеле пра паталагічную залежнасць ад свайго «каханага» (у двукоссі, бо, па тым жа Фроме, сапраўднае каханне пазбаўленае гэтых хваравітых рыс).




«Развітанцы» ілюструюць таксама цёмны бок літаратурнай пераемнасці. Кажучы пра каламбуры, пабудаваныя на сугуччы слоў ці іх тоесным напісанні, мы найперш згадаем Андрэя Хадановіча. Мікіта Найдзёнаў, магчыма, яму і не наследуе свядома, але ад такіх асацыяцый не пазбавішся. Іншая справа, што ў вершах Хадановіча ёсць нешта акром гульні — мудры і праз гэта крыху тужлівы погляд на свет і людзей у ім, разуменне неадназначнасці чалавека і яго права быць неадназначным. Мікіту Найдзёнава пакуль што прываблівае найперш сама гульня. Асабліва што датычыць наватвораў і сугуччаў. Так, «развітанцы» — безумоўна ўдалы наватвор, які да ўсяго ёмiста выражае змест зборніка. Паспяхова заканчваецца для Мікіты Найдзёнава пошук арыгінальнай рыфмы (часцей за ўсё). Але калі ўзяць тыя ж словы і перавесці іх у прозу, такім чынам агаліўшы думку, што застанецца?..

Зрэшты, калі згадаць, што творчасць мае на мэце самавыражэнне, «Развітанцы» сваю місію выканалі: паказалі маладзёна, які падоўгу ні над чым задумвацца не жадае, які прагне прыгод і новых яркіх уражанняў, які заблытаўся ў сваіх пачуццях. Пры гэтым ён застаецца аптымістам. А маладзевая смеласць, імпульсіўнасць даводзяць яго да твораў, якія варта ўспрымаць як жарт («Дзесяць за ноч!», «Дробнае хуліганства», паасобныя іншыя радкі). Ці нараджаюць эксперыменты кшталту верша «П», дзе ўсе словы на гэтую літару і пачынаюцца. Ці падштурхоўваюць да пошуку іншых форм, і так з'яўляюцца лімерыкі, якія не заўсёды адпавядаюць патрабаванням жанру (перш за ўсё абсурднасці зместу).

Творчая нясталасць, увогуле характэрная для першых кніг (за рэдкімі выключэннямі кшталту «Верхняга горада» Антона Рудака ці «Чаравічкаў» Георгія Барташа), робіцца асабліва заўважнай, калі Мікіта Найдзёнаў адыходзіць ад галоўнай тэмы — кахання і неспазнавальнай дзявочай душы — і бярэцца за той самы метафарычны вялікі камень. Напрыклад, як жывецца бязбацькавічу. Сур'ёзная тэма робіць аўтара скаваным, не дазваляе звярнуцца да тых сродкаў, якія раней рабілі яго небанальным, і верш «Люк» ператвараецца ў суцэльную канстатацыю з рыфмай *вочы/ночы*.

Відавочна, аўтар лепш пачуваецца ў інтымнай лірыцы. Нездарма яна складае львіную долю дэбютнага зборніка (што таксама характэрна). І якраз тут сустракаюцца радкі, здольныя ўсур'ёз закрануць чытача, прынамсі, такога ж маладога і ўзрушанага.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Кніжны свет



# Захапіць сюжэтам

## Што пісаць, каб дзеці чыталі?

Гэтае пытанне стала ключавым для «круглага стала» ў канферэнц-зале Выдавецкага дома «Звязда», арганізаванага сумесна з Цэнтралізаванай сістэмай дзіцячых бібліятэк г. Мінска і прымеркаванага да XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

Пісаць для дзяцей нашмат больш складана, чым для дарослых, таму што дзіцячы пісьменнік бярэ на сябе вельмі вялікую адказнасць, звяртаючыся да маленькага чытача. Ды і папулярызаваць літаратуру для дарослых лягчэй, бо дарослыя больш прыслухоўваюцца да рознага кшталту рэкамендацый. Менавіта дзіцячыя пісьменнікі робяць вялікі ўнёсак у фарміраванне ў дзіцяці мастацкага, літаратурнага густу, упэўнены намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота.



Фота Надзеі Бужан.
Падчас пасяджэння «круглага стала».

Але сёння ў кнігі вельмі сур'ёзныя канкурэнты: тэлевізар, камп'ютар, мабільныя гаджэты. Як у такіх умовах зацікавіць дзіця чытаннем, прычым не канкрэтным творам, а чытаннем увогуле? А галоўнае — як захаваць у яго жаданне чытаць, як знайсці сюжэт, выбраць стыль аповеду? Якіх тэм няма ў сучаснай дзіцячай літаратуры, якія найбольш актуальныя і ці варта асобна вылучаць у коле дзіцячага чытання тэмы для хлопчыкаў і тэмы для дзяўчынак? Над гэтым і разважалі ўдзельнікі «круглага стала».

Любоў да чытання пачынаецца з сям'і, з бацькоў. Сёння, на жаль, бракуе літаратуры для падлеткаў. У такіх творах, на думку загадчыцы сталічнай дзіцячай бібліятэкі № 16 Вольгі Цітковай, трэба ўздымаць праблемы ўзаемаадносін падлеткаў у сям'і і паміж сабою. Што ж да дзіцячай літаратуры, то тут бракуе кароткай прозы: аповесцей, апавяданняў.

Фонды дзіцячых бібліятэк сёння пастаянна папаўняюцца густоўна афармленымі кнігамі. Але дастаткова востра застаецца праблема якасці тэкстаў, і бываюць выпадкі, калі тэкст відавочна прайграе афармленню, падкрэсліла загадчыца сталічнай дзіцячай бібліятэкі № 12 Святлана Латаш. Акрамя таго, бракуе тэматычных зборнікаў, прыгодніцкай літаратуры, кніг, здольных дапамагаць адукацыйнаму працэсу, перавыдадзенай беларускай дзіцячай класікі — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Васіля Віткі, казак Уладзіміра Караткевіча… А яшчэ айчыннай дзіцячай кнізе не хапае рэкламы, таму і карыстаецца большым попытам расійская і замежная літаратура.

Ды і самі патрабаванні да дзіцячага аўтара, лічыць расійскі пісьменнік Алег Трушын, шматкроць вышэйшыя, чым да паэта ці празаіка, які піша для дарослых. Кнігі для дзяцей скіроўваюць на добрае. Вось той жа час не ўсе творы заканчваюцца добра. Вось тут галоўная задача пісьменніка — правільна падвесці юнага чытача да трагічнай развязкі сюжэта, добра ўсведамляючы, пра што пішаш. Калі ж гэта пазнавальная літаратура, прыкладам, кнігі энцыклапедычнага характару, то кожны навуковы факт важна падаць адаптавана, у займальнай форме.

Асобнае пытанне — творы ў пераказе. Адаптаваць тэкст для дзіцячага ўспрымання трэба так, каб не звесці арыгінальны твор да сухой інфармацыі, не страціць аўтарскую дэталізацыю канчаткова, тым больш што бацькі новага пакалення, таксама камп'ютарызаванага, цікавяцца чытаннем менш, чым іх папярэднікі. Маладых сем'яў, якія чытаюць, няшмат, сённяшнія дзеці нячаста бачаць бацькоў за чытаннем. Вядучы метадыст навукова-даследчага аддзела бібліятэказнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Вольга Бандарчук зазначыла: у структуры вольнага часу малодшых школьнікаў чытанне складае 60 %, у падлеткаў — увогуле менш як 30 %. Таму варта арганізоўваць у дзіцячых бібліятэках бацькоўскія клубы, арыентаваць, рэкамендаваць літаратуру, лічыць кіраўнік аддзела праектнай дзейнасці і міжнароднага супрацоўніцтва Маскоўскай абласной дзіцячай бібліятэкі Людміла Максімава. У гэтым сэнсе вельмі шмат значыць асоба бібліятэкара — адукаванага, зацікаўленага, добразычлівага. Ды і сучаснаму пісьменніку трэба шмат чытаць, каб не забывацца пра досвед аўтараў-папярэднікаў, у тым ліку пра набыткі савецкай дзіцячай літаратуры. І, грунтуючыся на гэтым досведзе, імкнуцца да таго, каб сённяшнія добрыя кнігі для наступных пакаленняў былі ў трэндзе.

**Яна ЯВІЧ**

# Тэрыторыя падлеткаў

## Маладзёжныя пісьменнікі шукаюць шляхі да сваёй аўдыторыі

**«Круглы стол» у піўным рэстаране? Гучыць тым больш незвычайна, што сабраліся ў «*BierStrasse*» школьнікі і настаўнікі, дзіцячыя пісьменнікі і бібліятэкары. «Ці накрые Беларусь сусветны бум падлеткавага чытання?» — галоўнае пытанне сустрэчы, арганізаванай генеральнай дырэкцыяй Маскоўскіх міжнародных выставак-кірмашоў і праектам «ЗаЧытанне» ў межах XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.**

Мадэратары «круглага стала» Андрэй Жвалеўскі і Яўгенія Пастарнак пішуць для юнай аўдыторыі ўжо дзесяць гадоў. Кнігі іх даволі паспяховыя, аднак сказаць, якая стратэгія падымае продаж і абуджае цікавасць моладзі, вельмі складана. «Паміж тым, што напраўду адбываецца ў падлеткавым чытанні, і тым, што пра гэта думаюць дарослыя, — велізарная розніца. Часам гэтая розніца ператвараецца ў сапраўдную бездань, і нам хочацца злучыць паміж сабой два берагі», — кажа Яўгенія.

У абмеркаванні ўдзельнічалі сучасныя падлеткавыя пісьменнікі Беларусі — Людміла Рублеўская, Валерый Гапееў, Марыя Бершадская, Аляксей Шэін і іншыя. Да іх далучыліся журналісты, выкладчыкі, бібліятэкары, выдаўцы, а галоўнае — самі тынэйджары.

Адмыслова да мерапрыемства была падрыхтавана прэзентацыя з аглядам самых папулярных падлеткавых кніг — паводле вынікаў апытання, праведзенага Андрэем Жвалеўскім і Яўгеніяй Пастарнак у гімназіі № 13 горада Мінска. Пісьменнікі гутарылі з вучнямі пятых, шостых, дзявятых і дзясятых класаў. Дзіўна, але кнігі, якія чытаюць адзінаццацігадовыя хлопчыкі і дзяўчынкі, супадаюць з улюбёнымі творамі шаснаццацігадовых юнакоў. Увага падлеткаў падзяляецца паміж сусветнай класікай, якаснай сучаснай літаратурай і папулярнымі масавымі аўтарамі. «Партрэт Дарыяна Грэя» і «Мілыя косткі», «Гары Потэр» і «Вулічны кот па мянушцы Боб», «Маленькі прынц» і «Пяцьдзясят дзён да майго самагубства», трылогіі «Уладар пярсцёнкаў» і «Галодныя гульні», Стывен Кінг і Джон Грын спрачаюцца за месца на кніжных паліцах у пакойчыку школьніка. Відавочна, моладзь не мае аніякага канона, схемы, якая б дапамагла адрозніваць добрае чытанне ад некарыснага. Але ці патрэбная ім гэтая схема? Калі дзяўчына кажа, што «Пяцьдзясят дзён да майго самагубства» змянілі яе жыццё, то, напэўна, рана разгортваць раманы Дастаеўскага і Талстога. Масавую літаратуру трэба перарасці самім, каб атрымаць чытацкі досвед і мець падставы для супастаўлення з класікай.

Згодна са статыстыкай, пасля дзявятага класа вучні амаль не ходзяць у бібліятэкі. Хтосьці скажа, што новае пакаленне страціла цікавасць да пісьмовага слова. Насамрэч, падлеткі ведаюць сучасную літаратуру лепш за дарослых. Школьнікі маюць шмат вольнага часу, які бавяць не толькі за камп'ютарнымі гульнямі.

Інтэрнэт — асноўная крыніца для чытання ў старшакласнікаў. Калі вучні малодшых класаў улічваюць парады бацькоў падчас выбару наступнай кнігі, то старэйшыя прыслухоўваюцца толькі да сваіх сяброў і рэкамендацый у сацыяльных сетках. Настаўнікі і бібліятэкары не могуць наўпрост паўплываць на іх меркаванне, бо моладзь не прымае спісы прапанаванай літаратуры і павучанні. Застаецца толькі адно: ісці на тэрыторыю падлеткаў, у Інтэрнэт. Аднак лічбавая прастора старэйшага пакалення не падобная да камп'ютарнага свету пакалення малодшага. Розніца ва ўзросце можа замінаць карыстальнікам «сусветнай павуты» разумець адно аднаго, таму не кожны дарослы здолее заваяваць давер школьніка. Прыспела пара змяняць фармат, і бібліятэкі мусяць ператварацца ў жывыя пляцоўкі са свабодным *Wi-Fi* і натоўпам юнакоў.

Як жа ў гэты працэс ўкліньцца беларускім аўтарам, калі нават родная мова часам перашкаджае знайсці свайго чытача? На жаль, рэдкія беларускія кнігі трапілі ў «спіс гімназістаў». Пісьменнік Валерый Гапееў лічыць, што вінаватая ў гэтым недастатковая вядомасць. Раней такой праблемы не было, бо на дзіцячую літаратуру працавалі тэлебачанне, газеты, выдаўцтвы — словам, існавалі паўнавартасныя піяр-кампаніі. «Сучасныя пісьменнікі хворыя на сціпласць, — выказаўся творца. — Самі сябе ніколі не пахваляць і будуць бязмерна ўдзячныя, калі пачуюць добрае слова ад крытыка ці сябра. Таму і атрымліваецца, што таленавітых пісьменнікаў падлеткі амаль не ведаюць».

Аляксей Шэін, аўтар фэнтэзі «Сем камянёў», таксама бачыць поспех праз спалучэнне добрай, якаснай літаратуры і ўмення своечасова дайсці да блогераў, журналістаў і чытачоў.

«Важна, каб бібліятэкары, настаўнікі і пісьменнікі прыслухоўваліся да падлеткаў, — упэўненая Яўгенія Пастарнак. — Яны супраць дыктату дарослых. Нам трэба асцярожна стварыць якасны культурны асяродак, які будзе набліжаны да моладзевага свету. Не ўсе дарослыя гатовыя падладжвацца пад юнакоў, але насамрэч трэба рабіць менавіта гэта».

- ✓ Увага падлеткаў падзяляецца паміж сусветнай класікай, якаснай сучаснай літаратурай і папулярнымі масавымі аўтарамі.
- ✓ Моладзь не мае канона, схемы, якая б дапамагла адрозніваць добрае чытанне ад некарыснага.
- ✓ Згодна са статыстыкай, пасля дзявятага класа вучні амаль не ходзяць у бібліятэкі.
- ✓ Вучні малодшых класаў улічваюць парады бацькоў падчас выбару наступнай кнігі, старэйшыя — прыслухоўваюцца толькі да сяброў і рэкамендацый у сацыяльных сетках.
- ✓ Бібліятэкі мусяць ператварацца ў жывыя пляцоўкі са свабодным *Wi-Fi*.
- ✓ Поспех кнігі — праз спалучэнне добрай, якаснай літаратуры і ўмення своечасова дайсці да блогераў, журналістаў і чытачоў.
- ✓ «Не ўсе дарослыя гатовыя падладжвацца пад юнакоў, але насамрэч трэба рабіць менавіта гэта».

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Гісторыі для ўсіх

## (Казачнасць у творах Алеся Бадака)

Цяжка знайсці ў беларускай літаратуры такога пісьменніка, які б не звяртаўся да дзіцячай тэмы. Пачынаючы ад нашаніўцаў, якія клапаціліся пра маладое пакаленне беларусаў, маючы на ўвазе, што менавіта яны стануць грамадзянамі той краіны, пра якую марылася, і заканчваючы сучаснымі аўтарамі, занепакоенымі тым, што свет сучасных тэхналогій пацясняе ў свядомасці дзіцяці свет прыроды — неад'емную частку чалавека.

Сёння існуе клуб дзіцячых пісьменнікаў, адзін з арганізатараў якога — Алесь Бадак.

I гэта нядзіўна: неаданаразова адзначаўся яго вялікі ўнёсак у дзіцячую літаратуру, прытым размова ідзе не толькі пра мастацкія творы. У навукова-папулярнай серыі «Усім пра ўсё» Алесь Мікалаевіч выступіў з шэрагам кніг. За першую кнігу, пра раслінны свет Беларусі, стаў лаўрэатам прэміі «Залаты купідон», будучы прызнаным аўтарам найлепшай кнігі года ў намінацыі «Публіцыстыка». Яркія выданні з кароткімі нарысамі і выдатнымі ілюстрацыямі хутка знайшлі пакупнікоў. Трэба думаць, што кнігі патрапілі ў рукі многім школьнікам і пераканалі прадстаўнікоў камп'ютарнага пакалення ў вабнасці і прыгажосці роднай прыроды.

Яшчэ ў студэнцкія, філфакаўскія, гады Алесь Бадак пачаў пісаць для дзяцей казкі і апавесці. Па словах самога аўтара, у гэтых творах ён імкнуўся найперш зрабіць адкрыцці для сябе і пра сябе, задаючы пытанні пра гэты свет (зусім не дасканалы, што заўважна па асобных аўтарскіх рэмарках і вельмі мяккай іроніі) «ад імя дзяцей, але сам». Як кожны ўдумлівы, па-добраму сур'ёзны дзіцячы аўтар Алесь Бадак прызнае, што пісаць для дзяцей складана: трэба самому стаць дзіцём, уваходзячы ў крохкі, далікатны свет героя, ні ў якім разе не дапускаць фальшы. «Дзіцячы свет — своеасаблівы свет. Менавіта ў гэтую пару фарміруецца характар чалавека, яго разуменне дабра і зла. Пісаць для маленькіх — вялікая адказнасць. Дзіця ніколі не скажа, што яго падманвае кніжка, што так, як там напісана, не бывае, нягледзячы на ўсю казачнасць сюжэта і паводзін яе герояў».

Што да казачнасці, яе ў творах Алеся Бадака хапае. Згадаць хоць бы «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў», дзе кожны раздзел не толькі пераносіць у розныя «лакацыі» фантастычнага свету, але і нясе пэўную выхаваўчую думку. Аднак нельга назваць яе павучальнай. Так, гераіня — дзяўчынка Карына, якая выправілася ў рызыкоўнае падарожжа дзеля брата, асуджае лянівых да немагчымасці лясонаў, але мастацкі твор пры гэтым застаецца мастацкім, не ператвараецца ў збор правілаў паводзін і настаўленняў юнаму чытачу. Што цікава, аўтар закранае і даволі дарослыя тэмы, прыкладам, ставіць пытанне «Што значыць быць жанчынай?». Зноў-такі, ненавязліва.

Тут варта прывесці яшчэ адно выказванне пісьменніка. «Я не згодзен з класікам, што для дзяцей трэба пісаць гэтак жа, як і для дарослых, толькі яшчэ лепей. Гэта проста прыгожая фраза… А ўвогуле мне бліжэй выказванне Клайва Льюіса: «...кніга для дзяцей, якая падабаецца толькі дзецям, — дрэнная кніга. Добрыя — добрыя для ўсіх. Вальс, які прыносіць радасць толькі танцорам, — дрэнны вальс». Гэтым запаветам я імкнуся кіравацца і ва ўласнай творчасці». «Незвычайнае падарожжа…» паказвае, што імкненне гэтае прыносіць плён.

Прыкметна хвалюе аўтара яшчэ адна тэма: свет прыроды. Беларускаму менталітэту ўвогуле характэрны клопат пра прыроду. Быць можа, не столькі праз усведамленне сваёй адказнасці перад ёй, колькі праз разуменне, што без лесу жыццё немагчымае. Прынамсі, такое, да якога беларус звык. Пра тое, што Алесю Бадаку гэтая тэма таксама не чужая, сведчыць хоць бы яго аўтарства ў згаданай ужо серыі «Усім пра ўсё». Але ёсць і іншыя, не такія відавочныя доказы. Свет «Незвычайных падарожжаў…» пераносіць дзіця не ў горад са звыклага шкла і бетону, але ў прыродны асяродак. Дый трапіць туды можна, адно толькі спрычыніўшыся да вялікай прыроднай таямніцы — цвіцення папараці. Гераіня ратуе цэлае поле блакітных кветак, жыхары Далініі — узорныя земляробы, многія іншыя героі казкі — традыцыйна прадстаўнікі жывёльнага свету.

У гэтым пашанотным стаўленні да свету жывога пераконвае і іншая кніга «Зорка для вавёркі», выдадзеная ў серыі «Вясёлы калейдаскоп» Выдавецкага дома «Звязда». Распавядаючы пра аўтара, укладальнікі кнігі адцемілі: «…Сюжэты сваіх казачных твораў бярэ з жыцця, нават калі піша пра незвычайныя прыгоды жывёл і птушак. Праўда, пры гэтым дадае, што для таго, каб сюжэт атрымаўся сапраўды неверагодным, спачатку трэба навучыцца разумець мову братоў нашых меншых і не ленавацца назіраць за іх паводзінамі». І, вядома ж, галоўны чыннік паспяховага твору (апроч таленту і прафесійнага досведу) — любоў да таго, пра што пішаш. У нашым выпадку — любоў да ўсяго жывога. Дзякуючы такому ўдаламу спалучэнню, апісанне жабінага канцэрта ў казцы «Нота "мі" для Кваквы» набывае па-караткевічаўску абаяльнае гучанне. Казка «Хто гаспадар?» увогуле перасягае за межы казачнага жанру дзякуючы незавершанай і трагічнай развязцы — тут ужо можна казаць пра рысы прытчы ці сатырычнай байкі ў прозе.

Адстойваючы правы і пачуцці нашых суседзяў па планеце, пісьменнік яшчэ і ажыўляе прадметы неадушаўлёныя і надзяляе іх душою, а не проста змушае прамаўляць патрэбныя для сюжэта словы.

А нядаўна пабачыла свет новая кніга Алеся Бадака «Як рассмяшыць папугая» — своеасаблівае падсумаванне зробленага. Кніга сабрала пад адной вокладкай згаданае ўжо «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў», казкі, уключаныя ў «Зорку для вавёркі», аповесць «У цёмным лесе за сіняй рэчкай», «Незвычайныя гісторыі пра малпачку Чыту і яе сяброў», а таксама «Шэсць падарожжаў вярхом на канапе», якія распавядаюць пра горад, вёску, лес, падводны свет, насякомых і міфалагічных персанажаў. Такая сабе міні-энцыклапедыя для самых маленькіх.

Піша Алесь Бадак і для падлеткаў: самы вядомы яго твор у гэтым рэчышчы — аповесць «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца». Чым прываблівае падлеткаў гэты твор? Магчыма, нечаканай развязкай і нелінейнай фабулай. Магчыма, сацыяльнай ідэяй, якая-такі чытаецца між радкоў: калі чалавек зрабіў нешта благое, гэта не значыць, што ён безумоўны злачынец — шмат якія нядобрыя ўчынкі здараюцца ненаўмысна, амаль выпадкова… Вось і саўдзельнік дробнага хуліганства, якое стала прычынай трагічнай падзеі, вырас паважаным пісьменнікам… Вядома, твор вучыць быць абачлівым, і разам з тым пакідае надзею на дараванне.

Для пісьменнікаў Алесь Бадак — не толькі калега, але і рэдактар. На працягу двух дзесяцігоддзяў Алесю Мікалаевічу даводзілася вызначаць канцэпцыі розных выданняў, удасканальваць аўтарскія тэксты, прымаць адказныя рашэнні. З Алесем Бадаком можна лёгка і хутка вырашаць дзелавыя пытанні, і трэба думаць, што для калег стасункі з гэтым зычлівым і жыццярадасным чалавекам заўсёды апынаюцца прадуктыўнымі.

**Юлія ШПАКОВА**

# Пампуй і карыстайся!

**Што зрабіць, каб родная мова стала сваёй для маленькіх беларусаў? Чытаць па-беларуску казкі! Лянотна самім? Пра вас паклапаціліся! Праект «Кнігі дзеткам» — гэта ілюстраваныя, агучаныя ацёрамі казкі, якія можна слухаць і чытаць па-беларуску і па-англійску.**

Каардынатар гэтага ўнікальнага беларускага праекта Таццяна Цуканава даўно марыць адкрыць сваё выдавецтва, дзе будуць выходзіць кнігі для дзяцей па-беларуску. Электронная палічка «Кнігі дзеткам» — першая прыступка Таццяны да сваёй мары.

Праект з'явіўся на пачатку 2014 года. Спярша выпусцілі шэсць ілюстраваных і агучаных кніг: адну адукацыйную пра космас і пяць казачных гісторый. Усе кнігі ў электроннай бібліятэчцы павучальныя: пра дабро, сяброўства, узаемапавагу і ўзаемадапамогу паміж сябрамі. Казкі ёсць як аўтарскія, так і народныя, і не толькі беларускія.

Цяпер беларусы з любога кутка свету могуць пампаваць маляўнічыя дзіцячыя кнігі на роднай мове. Дый і ў падарожжа замест таго, каб цягнуць торбу кніг, можна ўзяць «электронную палічку». Мабільныя прыстасаванні — частка паўсядзённага жыцця. Каб дзеці разумелі і валодалі беларускай мовай, павінны камунікаваць на ёй штодзень.

Большасць кніг можна пачытаць і паслухаць на дзвюх мовах — беларускай і англійскай. Па-беларуску казкі агучылі Андрусь Такінданг, Руся Шукурава, Юрый Жыгамонт і прафесійныя дыктары. Функцыю агучкі можна і выключыць, каб бацькі маглі пачытаць казку самі.

Беларуская электронная кніжніца для дзетак — частка вялікага міжнароднага праекта дзіцячых кнігарняў «Кіндарбук». Заснавальнік праекта, Павел Сіманаў, з Расіі, але перыядычна мяняе лакацыі: жыве то ў Сінгапуры, то ў В'етнаме. Сучасныя тэхналогіі дазваляюць яму кіраваць сваім праектам з любой кропкі планеты і шукаць сваіх аднадумцаў па ўсім свеце. Павел ездзіць па розных краінах, сустракаецца з выдаўцамі дзіцячай літаратуры і збірае цікавыя кнігі для дзяцей. Потым гэтыя кнігі перакладаюцца на англійскую мову, а з яе — на розныя іншыя: беларускую, украінскую, рускую, французскую, в'етнамскую.




Сёння такія «электронныя палічкі» ёсць ва Украіне, Расіі, Польшчы, Беларусі, Германіі, Францыі, В'етнаме, Швецыі, Італіі, Грэцыі, Малайзіі, Казахстане. Кожны «філіял» развіваецца сам па сабе: ствараюцца кнігі па матывах народных казак, аўтарскія казкі, але асноўная мэта — узаемадзеянне паміж філіяламі. Калі ў адным з'яўляецца новая кніга, яна перакладаецца на мовы іншых кніжніц. Такім чынам, дзеці ў розных краінах свету змогуць прачытаць казкі іншых народаў на сваёй мове.

Гэта, зразумела, бізнес. Але беларуская мова не такая ўжывальная, як, напрыклад, кітайская. Таму для нашай краіны гэта хутчэй не бізнес, а занятак для душы: пакуль усё трымаецца на энтузіязме. «Ёсць магчымасць, ёсць жаданне ствараць кнігі для дзяцей на беларускай мове, і мы адчуваем у гэтым патрэбу», — кажа Таццяна Цуканава.

Аўтары ініцыятывы пастаянна абнаўляюць электронную палічку, запрашаюць да супрацы выдавецтвы, каб перавесці ў лічбавы фармат і агучыць ужо надрукаваныя беларускія кнігі. Раней праграма была даступная толькі карыстальнікам планшэтаў на базе *iOS*. Нядаўна стваральнікі праекта распрацавалі версію для *Android*, якая называецца «Краіна казак».

Сёння праекту найперш патрэбныя аўтары, мастакі і гукарэжысёры. А яшчэ тыя, хто ўмее распавядаць казкі дзецям — па-беларуску і з любоўю!

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Французскі рэцэпт

## Як аўтару стаць папулярным?

**Калі нейкая сітуацыя падаецца надта сумнай, трэба паглядзець пад іншым вуглом, уявіць у дынаміцы альбо проста павялічыць маштаб. Тады больш зразумелымі стануць магчымасці і бліжэйшымі — перспектывы. Можна звярнуцца і да класічнага метаду параўнання: камусьці больш пашчасціла — гэта не нагода для зайздрасці, а шанец зразумець прычыны ўласных праблем.**

Таму, калі чытач стаміўся ад невясёлых роздумаў пра лёс айчыннай літаратуры і друкаванай кнігі, самы час згадаць XXIII Мінскую міжнародную кніжную выстаўку-кірмаш і апынуцца на стэндзе Пасольства Францыі. У межах выстаўкі адбылося шмат сустрэч з замежнымі аўтарамі. Але большасць цікавых мерапрыемстваў прайшлі менавіта на стэндзе Францыі, дзе падчас дыскусій і прэзентацый збіраліся дзясяткі наведвальнікаў. Распаведы французскіх пісьменнікаў дапамагаюць пераадолець стэрэатыпы і змяняюць уяўленне пра будучыню прыгожага пісьменства.

**Міф 1: Аўтарытэт пісьменніка сёння вельмі нізкі, а запатрабаванасць кнігі ў постіндустрыяльным грамадстве няўхільна зніжаецца.**

«Французы чытаюць шмат кніг і глядзяць шмат фільмаў. Культурная індустрыя прыносіць больш прыбытак, чым аўтамабільная прамысловасць нашай краіны», — распавядае пісьменнік і дыпламат Аліўе Пуаўр Д'арвор. Французскія пісьменнікі падаюцца ўпэўненымі ў значнасці сваёй працы, бо статус пісьменніка ў грамадстве дастаткова высокі.

Паводле сацыялагічнага апытання, пісьменнік — трэцяя па ліку прафесія, пра якую мараць французы. Многія французскія палітыкі — аўтары вядомых кніг. «І сапраўды, што рабіць пасля таго, як ты быў прэзідэнтам? Толькі пачаць пісаць кнігі!» — жартуе пісьменнік для дзяцей і юнацтва Жан-Філіп Ару-Віньо, згадваючы гісторыю экс-прэзідэнта Францыі Валеры Жыскара д'Эстэна.

Атрымліваецца, што ў камп'ютарызаванай і тэхналагічна развітой Еўропе захоўваецца цікавасць да кнігі. Магчыма, справа ў культурнай традыцыі, якую варта ўмацоўваць і ў нашай краіне?..

**Міф 2: Нават выдатны пісьменнік можа не мець чытачоў.**

Каб пісьменнік адчуваў свой прэстыж у грамадстве, для пачатку яму патрэбна некалькі тысяч удзячных чытачоў. «Вельмі важна, каб кнігі, якія мы выдаём, мелі камерцыйны поспех. Кніга можа быць якаснай, але гэтага мала — яна павінна яшчэ і добра прадавацца! Толькі калі вашы кнігі прадаюцца, можна лічыць, што вы адбыліся як аўтар. Гэта галоўны складнік творчага поспеху прынамсі ў Францыі», — распавядае аўтар прыгодніцкіх аповесцей для падлеткаў Крыстоф Мары.



Фота Анатоля Шчыракова.

Аліўе Пуаўр Д'арвор на літаратурнай сустрэчы.

> *Статус пісьменніка ў Францыі дастаткова высокі. Паводле сацыялагічнага апытання, пісьменнік — гэта трэцяя па ліку прафесія, пра якую мараць французы.*

«Калі чалавек пачынае пісаць кнігу, то не ўпэўнены, што яе скончыць, калі ж скончыў, то не ўпэўнены, што выдавец захоча яе выдаваць, а калі адбудзецца і першае, і другое, то не ўпэўнены, што чытач яе купіць. Увесь час разважаць над гэтымі пытаннямі даволі складана, але трэба», — дадае Жан-Філіп Ару-Віньо.

Такім чынам, аўтар павінен добра ўяўляць сваю аўдыторыю і пісаць так, каб захоплены чытач чакаў працягу кнігі, наведваў прэзентацыі, а галоўнае, раіў упадабанае выданне сябрам, сваякам ды супрацоўнікам. «Дык гэта ж масавая літаратура», — вось-вось адмахнецца чытач «ЛіМа». Але згадаем імёны Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Уладзіміра Караткевіча, якія мелі шматлікіх чытачоў не толькі ў нашай краіне. Хіба магчыма паставіць пад сумнеў талент гэтых аўтараў за тое, што іх кнігі знаходзілі пакупнікоў? Доўгі час беларускія літаратары былі вызвалены ад неабходнасці адгадваць, што прывабіць чытача ў іх новай кнізе і для каго яна будзе сапраўды цікавай. Але хіба сучаснай Беларусі не патрэбны чытаныя пісьменнікі?

**Міф 3: Паралельная праца замінае творчай рэалізацыі.**

Нават паспяховыя французскія аўтары займаюцца не толькі творчасцю. «Лічыць сябе пісьменнікам і больш нічога не рабіць? Для многіх гэта другі альбо трэці занятак. Галоўныя прафесіі могуць быць іншымі. Прыкладам, мой кірунак — коміксы. У Францыі штогод выдаецца пяць тысяч тон коміксаў. Немагчыма быць настолькі канкурэнтным, каб займацца выключна творчасцю!

Прадстаўнікі многіх прафесій у складанай сітуацыі атрымліваюць гарантыйныя выплаты ад працадаўцы. Але для пісьменнікаў іх не прадугледжваецца. Гэта складаная прафесія, якая патрабуе вялікай смеласці і ўпэўненасці: ты робіш менавіта тое, што ацэніць публіка», — распавядае Стан Сіланс.

«Для мяне творчасць і праца заўсёды суіснавалі: доўгі час я быў выкладчыкам, цяпер працую ў выдавецтве. Праца — гэта новыя ідэі, энергія, якая дапамагае ствараць новыя кнігі», — кажа Жан-Філіп Ару-Віньо. Нават класікам даводзілася зарабляць на жыццё не толькі творчасцю. Выдатна, калі праца натхняе, але нават у адваротным выпадку яе наяўнасць — не самая жахлівая перашкода. Тым больш калі згадаць гісторыю літаратуры і праблему пісьменніцкай свабоды...

> *Доўгі час беларускія літаратары былі вызвалены ад неабходнасці адгадваць, што прывабіць чытача ў іх новай кнізе і для каго яна будзе сапраўды цікавай. Але хіба сучаснай Беларусі не патрэбны чытаныя пісьменнікі?*

### МУЛЬТЫКУЛЬТУРАЛІЗМ НЕ КАТАСТРОФА?

Сучаснае грамадства вельмі разнастайнае, у кожнага чытача свае прыхільнасці... Але, на думку Аліўе Пуаўра Д'арвора, беларусы больш інтэграваныя, чым жыхары сённяшняй Францыі. Весці гаворку пра мультыкультуралізм можна ў дачыненні абедзвюх краін, і неабавязкова з трагічнай інтанацыяй.

«Разнастайнасць культур — багацце дзяржавы. Кожнае грамадства перыядычна трапляе ў стадыю змешвання культур, і гэта абсалютна нармальна. Чыстая культура — мёртвая культура. Калі народ застаецца сам насам у сваёй краіне, ніхто не мае да яго цікавасці», — сцвярджае Аліўе Пуаўр Д'арвор. Аўтар, які піша на мове, зразумелай для 274 мільёнаў чалавек, можа ставіцца да праяў мультыкультуралізму больш мякка, чым яго беларускамоўныя калегі. Але варта пагадзіцца, што суіснаванне некалькіх культур у адной краіне не замінае цікавай рэпрэзентацыі той культуры, якую асабліва хочацца зрабіць прывабнай для іншых.

У кожнай краіне свая культурная сітуацыя. Варта глядзець на праблемы з розных бакоў і шукаць магчымасці вырашэння, адэкватна ўлічваючы эканамічныя і сацыяльныя абставіны.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

---

*За падзеяй*

# Для сяброўскіх кантактаў

**Завяршылася XXIII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, пакінуўшы шмат новых творчых кантактаў і яскравых уражанняў. Аматары літаратуры даведаліся пра мноства новых кніг.**

Падчас выстаўкі-кірмашу прайшла прэзентацыя зборніка твораў пісьменнікаў Беларусі і Малдовы «Край мой запаветны» з серыі «Сугучча», што пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Малдова ў Беларусі Георгій Хіаарэ заўважыў, што новае выданне напоўніцу адлюстроўвае духоўную культуру народаў Малдовы і Беларусі. Падчас прэзентацыі адзін з вершаў Эміля Лацяну быў прадстаўлены на трох мовах: у арыгінале, па-малдаўску, — літаратарам Васілём Семенюком, па-руску і па-беларуску — айчыннымі паэтэсамі, членамі Мінскага абласнога аддзялення СПБ Людмілай Круглік і Рэгінай Рэўтовіч.

На выстаўцы быў прэзентаваны і шэраг кніг серыі «Бібліятэка часопіса "Вясёлка"», сумеснага праекта рэдакцыі часопіса «Вясёлка» і выдавецтва «Адукацыя і выхаванне»: «Свет Вялікага тэатра» Анастасіі Радзікевіч, «Сонечны чараўнік» Васіля Віткі, зборнік вершаў і апавяданняў пра школьнае жыццё «Калі ранец лёгкі».

На цэнтральнай выставачнай пляцоўцы адбылася прэзентацыя зборніка вершаў старшыні Саюза пісьменнікаў Арменіі Эдварда Мілітаняна «Паветраны дом» з удзелам аўтара. Верш, які даў назву кнізе, паэт прадэкламаваў у арыгінале. Зборнік выйшаў у Выдавецкім доме «Звязда», а вершы Эдварда Мілітаняна па-беларуску перастварыў айчынны пісьменнік Мікола Чарняўскі. Гісторыю беларускага выдання «Паветранага дома», якая пачалася з зацікаўленасці армянскай літаратурай і асабістага знаёмства з Эдвардам Мілітанянам, распавёў дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# «Ва Узбекістане з задавальненнем чытаюць Янку Купалу…»

**Літаратура прадстаўляе душу нацыі, але не можа развівацца ізалявана. І якая б гэта ні была краіна — ці на Усходзе, ці на Захадзе — існуе жаданне дыялогу з іншымі. Але ёсць тыя, хто нам бліжэй тэрытарыяльна, а ёсць тыя краіны і культуры, якія могуць разумець тэмы і задачы, якімі жыве, напрыклад, наша літаратура: мы доўгі час існавалі ў адной прасторы і цяпер праходзім падобны шлях да саміх сябе. Гэта і шлях пошукаў новага дыялогу са светам — ужо ад імя сваёй асобнай культуры. Да яго імкнецца як беларуская культура, так і, напрыклад, узбекская. Пра гэта ішла гаворка з Саадат Мухамедавай, загадчыкам кафедры «Агульнае мовазнаўства» Ташкенцкага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Нізамі, доктарам філалагічных навук, прафесарам, і Шаірай Ісаевай, дацэнтам кафедры «Узбекская літаратура і методыка яе выкладання» ТДПУ імя Нізамі, кандыдатам філалагічных навук, дацэнтам.**

**— Як змяніліся тэндэнцыі і арыенціры ўзбекскай літаратуры за апошнія два дзесяцігоддзі?**



__Саадат Мухамедава:__ Літаратура — вынік свабоднага мыслення. Яна не можа развівацца там, дзе парушаюцца правы чалавека. Менавіта таму пісьменнікі ва ўсе часы змагаліся за волю нацыі, духу, творчасці. З набыццём незалежнасці ўзбекская літаратура атрымала свабоду ва ўсім. У апошнія дзесяцігоддзі ў развіцці нашага пісьменства адбыліся карэнныя перамены. З'явіліся творы, якія адлюстроўваюць прагрэсіўныя традыцыі сусветнай літаратуры. Аднак ёсць і тыя, якім уласцівыя новыя трактоўкі формы і зместу, новыя літаратурна-мастацкія прынцыпы. Асноўная рыса сучаснай узбекскай літаратуры — выкрыццё адмоўных наступстваў савецкага мінулага праз прызму людскіх лёсаў. Асабліва гэта заўважна ў празаічных творах — раманах, аповесцях, апавяданнях, дзе ёсць і рысы, уласцівыя мадэрністычнай літаратуры Еўропы — развіццё дзеяння пры дапамозе сімвалаў, знакаў, праз самааналіз галоўнага героя. Але найперш назіраюцца матывы, якія адлюстроўваюць нацыянальны дух і душу нацыі.

**— Сёння якія асноўныя плыні ў літаратуры Узбекістана?**



__Шаіра Ісаева:__ Для ўзбекскай літаратуры апошніх дзесяцігоддзяў характэрныя такія эстэтычныя прынцыпы, як мастацкасць, праўдзівасць, уплывовасць, дзейснасць. Кіраванне імі спрыяла больш яркаму, глыбокаму асэнсаванню карцін мастацкага свету, тварэнню вобраза сучаснага героя. Незалежнасць дазволіла прадстаўнікам творчага свету спазнаць сябе, па-іншаму зірнуць на жыццё, людзей. У прыватнасці, творы сталі ацэньвацца з пункту гледжання мастацкасці, а не па «ідэалогіі партыі». У літаратуразнаўстве галоўным прынцыпам апынулася вывучэнне спосабу мастацкага мыслення аўтара. У творчасці такіх узбекскіх пісьменнікаў, як Эркін Азам, Хуршыд Дустмухамад, Назар Эшанкул, Кучкар Наркабілаў, прасочваюцца новыя матывы — іх героі шукаюць праўду жыцця шляхам самааналізу, яны імкнуцца спазнаць сябе, даць адказ на чалавечыя праблемы праз самасцвярджэнне. У раманах, апавяданнях вышэйзгаданых аўтараў адчувальны ўплыў знакамітых пісьменнікаў XX стагоддзя Франца Кафкі, Альбера Камю.

Напрыклад, апавяданне «Лячэнне» Назара Эшанкула міжволі нагадвае апавяданне «У папраўчай калоніі» Кафкі. Але такія творы ўзбекскага аўтара, як «Заваёва», «Труна», сталі сапраўднай сенсацыяй дзякуючы непаўторнаму аўтарскаму стылю і інтэрпрэтацыі рэчаіснасці. Сам жа Назар Эшанкул мяркуе наступным чынам: «Літаратура ніколі не можа развівацца ізалявана. Сусветная літаратура аказала вялізны ўплыў на развіццё літаратур розных народаў, у прыватнасці, і на ўзбекскую літаратуру. Яна нам не чужая... Таму не варта баяцца паняцця «сусветная літаратура». Традыцыі пераходзяць ад адной літаратуры да другой. У кожнага творцы ёсць свае патрэбы, і кожны бярэ тое, што яму трэба... Я таксама ўзяў усё, што мне трэба, і няхай яшчэ хтосьці возьме ў нас — узбекскіх пісьменнікаў. Я вельмі проста разумею паняцце «ўплыў літаратур» і таму не баюся гэтага паняцця. Калі «пісаць па-іншаму» — гэта пісаць своеасабліва, то гэта апраўдана ва ўсім. Калі гэта проста блеф, пустая трата сілы і часу, гэта нават не перайманне. Перайманне павінна быць годным таго, што запазычваюць. Уся сутнасць не ў перайманні або ва ўплыве — сутнасць у таленце. Ці ёсць талент у творы? Калі так, няма прычын для асцярогі. Гэты твор абавязкова прагучыць, абавязкова паўплывае на сваіх чытачоў. Напрыклад, мне аднолькава дарагія і надзвычай нацыянальны апавед М. М. Дуста «На палях, на прасторах» і «Уош» Фолкнэра. У іх я не бачу ні агульнага, ні прыватнага: яны прыцягальныя тым, што з'яўляюцца ўзорам таленту. Нацыянальнасць — гэта не мяжа. Гэта любоў да сваёй нацыі, захаваная ў слове...».

Такім чынам, самай адметнай рысай згаданага перыяду з'яўляецца стварэнне новых вобразаў і сюжэтаў, якія адлюстроўваюць і нацыянальныя традыцыі, і тэндэнцыі сусветнай літаратуры.

**— Наколькі змянілася роля пісьменніка і пісьменніцкага слова ў грамадстве?**

__Саадат:__ Наш Прэзідэнт Іслам Абдуганіевіч Карымаў пра ролю і значнасць слова пісьменніка ў грамадстве кажа так: «...Нам усім добра вядома, што XXI стагоддзе, з'яўляючыся стагоддзем інтэлектуальнага патэнцыялу, мыслення і духоўнасці, не толькі адкрывае перад чалавецтвам новыя і новыя далягляды, але і стварае вострыя праблемы. У сённяшнія складаныя і трывожныя дні палымянае слова пісьменніка, якое скіравана заклікаць людзей да справядлівасці, да любові і талерантнасці, набывае асаблівае значэнне».

Сапраўды, у літаратуры — мастацтва слова — поўная свабода ва ўсім, свабода, падмацаваная законам. У выніку ў сферы літаратуры адбыліся велізарныя змены. Мастацкія творы набылі новую палітру, адлюстроўваючы актуальныя запыты нашага часу. Да якога б жанру ні адносіўся твор, ён мусіць вырашаць сацыяльныя, маральна-рэлігійныя, сямейныя праблемы, адлюстроўваць духоўны свет чалавека... Дзякуючы стылістычна-фармальным даследаванням у літаратуразнаўстве апошніх гадоў з'явіліся новыя творы Назара Ішанкула «Водар мяты», Улугбека Хамдама «Далёкая Дзілнура», Сабіра Унара «Любімае поле Чамбілбея», Хуршыда Дустмухамада «Я — без цябе, ты — без мяне» ды інш. У іх адчуваецца ўплыў новай літаратуры і новага мыслення. У дадзеных творах бачна, як спалучаецца мадэрнізм з векавымі традыцыямі ўзбекскай літаратуры. У прыватнасці, С. Унар у сваіх творах малюе вобраз сумленных, смелых, незвычайных людзей. Майстэрства пісьменніка — у стварэнні рэалістычных пейзажаў і тонкім ужыванні фальклорных матываў, сінтэзе рэальнасці і міфа: менавіта праз сувязь з прыродай раскрываецца духоўны свет герояў.

> *Мастацкія творы набылі новую палітру, адлюстроўваючы актуальныя запыты нашага часу. Да якога б жанру ні адносіўся твор, ён мусіць вырашаць сацыяльныя, маральна-рэлігійныя, сямейныя праблемы, адлюстроўваць духоўны свет чалавека...*

**— А як развіваецца сучасная літаратурная крытыка і літаратуразнаўства ва Узбекістане?**

__Шаіра:__ У нашым літаратуразнаўстве адбыліся карэнныя змены. У якасці самага яскравага прыкладу — пашырэнне жанру эсэ. Актывізаваўся працэс напісання біяграфічна-асветніцкіх раманаў. Толькі доктар філалагічных навук, прафесар Наім Карымаў напісаў 5 раманаў-эсэ пра творчасць Чулпана, Усмана Насырава, Айбека, Хаміда Алімджана, Шэйхзадэ…

**— Ці можаце назваць асноўныя дасягненні і праблемы сучаснай узбекскай літаратуры?**

__Шаіра:__ Па-першае, пакладзены канец аналізу мастацкіх твораў з ідэйна-тэматычнага пункту гледжання. Творы сталі аналізавацца па прынцыпе мастацкай каштоўнасці, а літаратурны працэс разглядацца як складнік гісторыі і мастацтва. Дамінуе філасофска-эстэтычная плынь: мастацкі твор павінен быць люстэркам, у якім адбіваецца не толькі асоба і светапогляд аўтара, але і сацыяльна-духоўны стан усяго грамадства.

Па-другое, творы ўзбекскай літаратуры сёння ўключаюцца ў кантэкст сусветнай. Манаграфіі Парызы Мірзы-Ахмедавай «Класіка і сучаснасць у аспекце ўзаемадзеяння», «Узаемадзеянне як крыніца ўзбагачэння нацыянальнай літаратуры», манаграфіі Улугбека Саідава «Усход і захад: кропка перасячэння», «Глабалізацыя і міжкультурныя зносіны», манаграфія Мухабат Шарафутдзінавай «Узбекская проза XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» — сведчанне таго, што новая літаратура дабілася вялікіх поспехаў у сферы міжнародных літаратурных сувязяў.

Вартая ўвагі і манаграфія Мурада Ібрагімава «Літаратура — маё жыццё», дзе даследуюцца літаратурна-эстэтычныя погляды сусветных класікаў і іх уплыў на развіццё ўзбекскай літаратуры.

**— Цяжка сёння выдаць кнігу маладому ўзбекскаму аўтару?**

__Саадат:__ Якасную ва ўсіх адносінах кнігу, вядома, выдаць няпроста ўсім, не толькі маладым... Але калі аўтар сапраўды таленавіты, то абавязкова праб'е сабе шлях. Для таленавітай моладзі існуюць спецыяльныя фонды Саюза пісьменнікаў Узбекістана, іншых дзяржаўных арганізацый, якія падтрымліваюць аўтараў-пачынальнікаў і выдаюць іх кнігі.

**— Ці шмат сёння з'яўляецца перакладной літаратуры і ці захавалася ва Узбекістане перакладчыцкая школа?**

__Шаіра:__ Так, сёння ў нашай краіне выдаецца багата перакладной літаратуры. Поспехі ёсць якраз таму, што захавалася свая перакладчыцкая школа. У Ташкенце выдаецца адмысловы часопіс «Сусветная літаратура» («Жахон адабиёти»), дзе друкуюцца пераклады на ўзбекскую мову твораў пісьменнікаў з усяго свету.

Выходзяць манаграфіі, напрыклад, Ніны Уладзіміравай «Развіццё ўзбекскай прозы XX стагоддзя і праблемы мастацкага перакладу», дапаможнікі. Асаблівае месца займаюць пераклады з азербайджанскай мовы на ўзбекскую. Пабачылі свет п'есы Джафара Джабарлы, раман Сабіра Рустамханлы. У 2013 годзе выдадзены зборнік апавяданняў азербайджанскіх пісьменнікаў у перакладзе Рустама Жаборава і кніга вершаў азербайджанскіх паэтаў.

**— З якімі яркімі ўзбекскімі аўтарамі параілі б нашаму чытачу пазнаёміцца найперш?**

__Саадат:__ Раю звярнуць увагу на імёны Зульфіі, Адзіла Якубава, Пірымкула Кадырава, Шукура Халмірзаева, Уткіра Хашымава, Аскада Мухтара, Хуршыда Дустмухамада, Усмана Азіма, Асада Дзілмурода, Ікрама Атамурада, Назара Ішанкула, Хуршыда Даўрона…

Таксама беларускаму чытачу будзе цікава пазнаёміцца з творамі Ібрагіма Гафурава «Вечная абаяльнасць», «Свабода душы», «Сарамлівасць — збаўленне». У іх асэнсоўваюцца нараджэнне і фарміраванне нацыі, выяўляюцца думкі пра месца і прызначэнне чалавека ў грамадстве. Калі існуе меркаванне пра тое, што хараство ўратуе свет, то І. Гафураў упэўнены, што свет выратуе сарамлівасць і мараль.

> *Калі «пісаць па-іншаму» — гэта пісаць своеасабліва, то гэта апраўдана ва ўсім. Калі гэта проста блеф, пустая трата сілы і часу, гэта нават не перайманне. Перайманне павінна быць годным таго, што запазычваюць. Уся сутнасць не ў перайманні або ва ўплыве — сутнасць у таленце.*

**— Ці ведаюць у вас творчасць аўтараў краін СНД і беларускую літаратуру, у прыватнасці?**

__Шаіра:__ Ва Узбекістане з задавальненнем чытаюць Янку Купалу, Якуба Коласа ды іншых беларускіх аўтараў-класікаў. У 80-я гады мінулага стагоддзя ў нас былі апублікаваны дакументальны раман беларускай пісьменніцы Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночы твар» — гісторыі жанчын, якія перажылі вайну. Падобны водгук вайны знаходзім і ў рамане азербайджанскага творцы Сахавета Талібілі «Продкі Адама».

**— Якія сёння, на ваш погляд, асноўныя шляхі ўзаемадзеяння беларускай і ўзбекскай літаратур?**

__Саадат:__ Тут самую важную ролю павінны адыграць Саюзы пісьменнікаў Беларусі і Узбекістана. У спісе магчымых сумесных імпрэз і арганізацыя тыдняў літаратуры, і творчыя абмены, і выданне калектыўных зборнікаў... Інтэрнэт у дапамогу — можна і неабходна было б стварыць агульны сайт творцаў дзвюх краін. Словам, калі ёсць жаданне зрабіць крок насустрач адно аднаму, можна здзейсніць многія праекты.

**Гутарыла Таццяна СІВЕЦ**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Пластычнае мысленне

«ПлаStформа» адметная ў першую чаргу тым, што прымусіла гледачоў думаць. Ні адзін спектакль, нягледзячы на яго канкрэтны сацыяльны сэнс, не быў падобны на байку з разжаванай мараллю ў канцы. Права выбару заставалася за тымі, хто назіраў, — аналізуйце як хочаце, толькі не спіце. Акрамя беларускіх калектываў на авансцэну ў гэтым годзе выйшлі моцныя танцтэатры з іншых краін Еўропы — Польшчы, Украіны і Даніі (сюрпрыз закрыцця форуму — монаперформанс «Стыгма» вядомай дацкай танцоркі і харэографа Кіт Джонсан). Ініцыятарамі форуму выступілі, як і заўсёды, Вячаслаў Іназемцаў (*фізічны* тэатр «*InZhest*», Мінск), Аляксандр Цебанькоў (танцтэатр «Галерэя», Гродна), Іна Асламава (група сучаснай харэаграфіі «*Quadro*», Гомель). На гэты раз артыстам адвялі цэлыя чатыры пляцоўкі — ДК культуры і спорту чыгуначнікаў, Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, Нацыянальная школа прыгажосці і Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў, які па сумяшчальніцтве стаў адным з галоўных арганізатараў падзеі. Падтрымка з боку дзяржавы — бадай, самае важнае новаўвядзенне сёлетняга форуму. Дзякуючы гэтаму ўдалося скласці магутную польскую праграму з сямі спектакляў. Думка для разважання на будучую «ПлаStформу»: чым больш партнёраў, спонсараў — тым шырэйшая геаграфія і ярчэйшае відовішча. Можна запрасіць замежных крытыкаў і экспертаў, лепш заявіць пра сябе на міжнароднай сцэне. Ды і квіткі становяцца больш даступнымі.

Тым не менш «ПлаStформа-2016» стала выдатнай дэманстрацыяй эвалюцыі харэаграфічнага мастацтва Беларусі, разуменнем таго, што да нас, нарэшце, дайшла неабходнасць перагляду класічных традыцый, прыняцця эксперыментальных форм у выглядзе аднаго з самых яркіх феноменаў сучаснай культуры — танца. Нядзіўна, бо ў постсавецкай прасторы ён пачаў развівацца нашмат пазней, чым за мяжой. Толькі ў 1980-х мы даведаліся, што такое эстэтыка пластычнага мыслення ў стылі мадэрн. На жаль, пра *contemporary dance* многія не ведаюць да гэтага часу…

«ПлаStформа-2016» раскрывае вочы і на іншыя праблемы. У Беларусі па-ранейшаму не хапае моцных адукацыйных інстытутаў у галіне пластычнага тэатра і сучаснай харэаграфіі, такіх, дзе можна было б удасканальваць майстэрства перформера ці акцёра тэатра танца. Калектывы, прадстаўленыя на форуме сёння і колькі гадоў таму, незалежныя, прыватныя. А вось у Польшчы, напрыклад, існуе цэнтр сучаснага танца «Стары бровар» з пастаяннай пляцоўкай, Інстытут музыкі і танца, рэальна працуюць праграмы фінансавання маладых харэографаў… Гэта ж гарантыя вяртання таленавітых спецыялістаў з Заходніх краін на радзіму! Недастаткова і эксперыментальных сцэн.

## ПРАЕКЦЫЯ

Большасць пастановак форуму засноўвалася на адным з самых папулярных сучасных танцавальных стыляў — *contemporary dance*. Гэта мова свабоднай пластыкі, спалучэнне ёгі і джаза, падзенняў і пад'ёмаў, класічных балетных па і экспрэсіўных ліній мадэрну. Гэта спадчына легендарнай Айседоры Дункан, якая прапанавала не проста адточваць рухі, а напаўняць іх канкрэтным сэнсам, даносіць свае эмоцыі да гледача.

*Contemporary dance* прагучаў на форуме ў «Імправізацыі без сакрэтаў» ад беларускага акцёра, харэографа, псіхолага Міхаіла Камінскага, акцёраў тэатра «Студыёзы», студэнтаў і выпускнікоў кафедры харэаграфіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, вучняў *Dance Essence Studio*. Яны выканалі танец, тонка звязаны з псіхалогіяй, паказалі адточанае сцэнічнае мастацтва і адначасова чысты экспромт. Міхаіл Камінскі, нібы майстар-гіпнатызёр, на працягу амаль дзвюх гадзін выступу размаўляў з гледачамі, распавядаючы пра тое, як дасягнуць гармоніі паміж целам і духам, цалкам пагрузіцца ў магію рухаў, адчуць сябе глінай, мяккай і гнуткай, вызваліцца ад усіх заціскаў і блокаў... Харэограф упэўнены, што ўсе людзі могуць танцаваць, трэба толькі разняволіцца, злавіць патрэбны настрой і... распавесці сваю гісторыю. «Імправізацыя без сакрэтаў» — прыклад мастацтва пазітыўнага, не правакацыйнага, своеасаблівы курс псіхатэрапіі і матывацыі. Дарэчы, «ПлаStформа» сёлета ўдалася надзвычай рознабаковай.

*Contemporary dance* практычна ў яго чыстым выглядзе (не лічачы відэаўставак) прадэманстраваў і тэатр танца «*Skyline*» ў перформансе «Блізкасць», які адбыўся не на сцэне, а ў вестыбюльным паўзмроку тэатра, на пацёртай падлозе, у паўсядзённым адзенні… Тым не менш маладыя людзі вельмі ўдала паразважалі на тэму ўзаемадзеяння людзей, набліжэння і аддалення, разумення і адчужэння... Хоць пастаноўка і нагадвала фізічную размінку, сэнс яе лёгка адгадваўся.



*«Імправізацыя без сакрэтаў» пад кіраўніцтвам Міхаіла Камінскага.*



*Тэатр «Інжэст». «ДК-Данс — рытуал развітання».*

## ІДЭНТЫФІКАЦЫЯ

Але вернемся да вытокаў. «ПлаStформа» сімвалічна стартавала са спектакля-развітання — легендарнага «ДК-Дансу» ад заснавальніка форуму, старэйшага на Беларусі фізічнага тэатра «*InZhest*» пад кіраўніцтвам Вячаслава Іназемцава. Хроніка заняпалага карнавала ў стылі японскага танца бута ўражвала гледачоў з розных краін на працягу 15 гадоў. Тыя, хто завітаў на «ПлаStформу», змаглі пабачыць пастаноўку ў апошні раз. Гэты спектакль — адлюстраванне прынцыпаў творчасці тэатра, заснаваных на незалежнасці, адмаўленні стылявых і жанравых рамак, цязе да гратэску, выкарыстанні рытуальных і архаічных форм, пастаянных эксперыментах. Пад жывую медытатыўную музыку Мацвея Сабурава і групы «Плата» на сцэне разгортвалася драма пра падзенне чалавека і немагчымасць падняцца зноў. Артысты манатонна паўзлі па сцэне, не здымаючы хадуляў, якія скоўвалі іх рухі… Але што, калі вызваліцца, адкінуць усе стэрэатыпы, нібы брудную вопратку, не думаць пра памылкі мінулага і змагацца, нягледзячы ні на што? Ці гатовыя вы да змен? Калі не, то наўрад ці «ПлаStформа» засталася зразумелай. Невыпадкова менавіта гэты спектакль стаў пачаткам форуму — каб падрыхтаваць, разняволіць гледачоў.

Калі раней «*InZhest*» быў ледзь не адзіным у нашай краіне незалежным і яркім прадстаўніком пластычнага танцавальнага руху, то, мяркуючы па мінулым форуму, талентаў дадалося. Утварыліся новыя калектывы, не перасталі праводзіцца лабараторыі вулічнага і інтэрактыўнага тэатра… Эксперыментальнае мастацтва танца ў Беларусі паступова рухаецца наперад. Таму развітанне з «ДК-Данс» — гэта не канец, а імпульс для будучых здзяйсненняў. «ПлаStформа-2016» паказала, што неабавязкова быць прафесіянальным артыстам, — куды больш важна умець назіраць за тым, што адбываецца вакол, імкнуцца пераўтвараць рэчаіснасць і падзяліцца сваім бачаннем з іншымі.

## ЗАМЯШЧЭННЕ

Добры прыклад: камерная трупа сучаснага танца і перформансу «Галерэя» з Гародні, аб'яднанне зусім розных людзей, якія дзейнічаюць па прынцыпе свабоднай творчасці. Калектыў выступіў на форуме са спектаклем «Было — не было», узнавіўшы бачанне быцця ў стылі Кафкі пад музыку Баха і Шапэна. Больш лёгкім аказаўся танцспектакль «Інтра» маладога мінскага тэатра танца «Адлюстраванне». Тут усё проста: мужчына і жанчына, зараджэнне жыцця. Монаперформанс «Збожжа» ў пастаноўцы Сяргея Паяркова сказаў пра яшчэ адну блізкую ўсім тэму — працэс нараджэння думак, якія маюць уласцівасць дакучліва прарастаць у галаве, падпарадкоўваючы свядомасць.

Тэатр-студыя сучаснай харэаграфіі Дзіяны Юрчанка (Віцебск) прадставіў танцспектаклі «Правінцыя» і «Поры года». Першы стаў падарожжам у горад *N*, серыяй замалёвак пра звычайных людзей, якіх можна ўбачыць з акна любога спальнага раёна, а другі — балетам пад сучасную музыку з выкарыстаннем лістоў Антуана дэ Сэнт-Экзюперы ... Касцюмы і дэкарацыі ўмоўныя. Цэнтр — непасрэдныя рухі і прамыя зносіны з гледачамі. А гэта — адна з самых адметных тэндэнцый «ПлаStформы».

## ІЗАЛЯЦЫЯ

Творчасць, якую складана ўспрымаць, тое, што пакідае горкі прысмак, пачуццё пустаты і роспачы, разважанні з катэгорыі «не ўсе зразумеюць» — новы спектакль «*I'm OK*» ад «*Laboratory Figures Oscar Schlemmer*» (Магілёў). Нягледзячы на далікатную музыку Гендэля і жыццесцвярджальную назву, «*I'm OK*», гэта хутчэй сарказм, нядрэнны эксперымент на грані сюррэалізму і падсвядомасці. Танца тут амаль няма, затое ёсць словы, напрыклад, аб класіфікацыі пацалункаў, якая нагадвае сагу пра паглынанне партнёрамі адзін аднаго, а таксама відэашэраг, на якім дзяўчына шызафрэнічна дыхае на сваё адлюстраванне ў люстэрку... Квінтэсэнцыя эгаізму? Хутчэй за ўсё. Глядзець доўга на гэта немагчыма — хочацца пакінуць залу. Але нешта ўсё ж такі ўтрымлівае да канца. Можа быць, імкненне адмовіцца ад стэрэатыпаў і зразумець нязвыклае? У гэтым таксама ўся «ПлаStформа».

Яшчэ адна неадназначная пастаноўка — «*Vasen-Extasen*» — не столькі правакацыя, колькі рытуал з філасофскім кантэкстам і схаваным канфліктам. Назіраючы за манатонным рухам артыстаў і фігурай у белым пасярэдзіне сцэны, уцягваешся ў транс. Што хацелі выказаць аўтары, тэатр танца «Каракулі»? У структуры перформансу відавочна супастаўляюцца дзве катэгорыі — бясконцасць пошукаў і імгненне творчага азарэння. Апазіцыі паказваюцца праз кругавы танец, які здаецца бесперапынным, і перыядычнае знікненне танцораў са сцэны, а таксама варыятыўнасць музычнага саўндтрэку... Магчыма, гаворка ідзе пра сузіранне свету, праблему яго спасціжэння ў хаатычных завіхрэннях часу.

## РАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ

На форуме ў шэрагу некалькіх прэм'ер адбыўся паказ эксперыментальнага спектакля студэнтаў БДУКМ «Пасля Да» ў пастаноўцы польскага харэографа Мацея Кузьмінскага. Серыя эцюдаў з глыбокім сэнсам асноўвалася на сацыяльна-палітычнай сітуацыі, пачуццях нявызначанасці і крызісу, якія пануюць ў грамадстве XXI стагоддзя. Актуальнасць — непазбежная рыса «ПлаStформы». З польскіх калектываў, зыходзячы з актуальнасці менавіта для нас, беларусаў, хочацца выдзеліць Люблінскі тэатр танца са спектаклем «Райская аблава». Пастаноўка дэталёва даследуе веру чалавека ў розных межах і ўвогуле без іх — як індывідуальную і калектыўную з'яву.

«ПлаStформа Мінск-2016» па традыцыі ўключала і насычаную адукацыйную праграму. Польскія танцавальныя крытыкі, педагогі Ганна Круліца і Ядвіга Маеўска на лекцыях распавялі пра тое, як разумець і аналізаваць сучасны танец, разбірацца ў тэндэнцыях яго развіцця. Яны казалі, напрыклад, пра *Tanztheater*, пераварот у гісторыі сучаснага танца, які прывёў да яго новага асэнсавання і ўспрымання. Танец выйшаў за межы чыстых рухаў і з дапамогай цела стаў закранаць вострыя, актуальныя пытанні. Падыходзіць для маніфесту і нашай, беларускай «ПлаStформы».

Спектаклі жывуць тут і цяпер, у той час, калі мы глядзім, але гэта не значыць, што пасля пра іх не трэба гаварыць. Пасля кожнага спектакля форуму праходзіла яго абмеркаванне. Заставаліся не ўсе. У Еўропе, напрыклад, людзі, як правіла, не сыходзяць — сядзяць, шчыра абмяркоўваюць. Нашаму тэатру гэтага не хапае. Трэба пазбаўляцца замкнёнасці.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

Літаратура і мастацтва № 8 26 лютага 2016 г.


Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# «Мастацтва — гэта асобная рэлігія!»


*Александр Малей з прывітальным словам на адкрыцці выстаўкі.*

**— Як вашы карціны апынуліся ў Нью-Ёрку і чаму для вас гэта стала сюрпрызам?**

— У 1990-х гадах у мяне быў знаёмы калекцыянер, які жыў у Рызе. Ён патроху збіраў мае працы, а затым вывозіў за мяжу. Каля сарака двух палоцен ён вывез у Амерыку і Канаду. Пасля сувязь неяк паступова ў нас абарвалася. І вось прайшла чвэрць стагоддзя, праз сацыяльныя сеткі мяне пачалі шукаць амерыканскія эксперты. Я спачатку думаў, што яны памыліліся і шукаюць зусім іншага чалавека. Але ў выніку апынулася, што калекцыянер падарыў фонду падтрымкі сучаснага візуальнага мастацтва «*Kolodzei Art Foundftion*» чатыры мае працы. Амерыканскія эксперты правodзілі экспертызу, ім трэба было пацвердзіць аўтарства. Пасля таго, як я пацвердзіў, карціны патрапілі ў фонд. Самае цікавае, што я не прыклаў ніякіх намаганняў, а работы мае там. Сюжэт вельмі падобны на казку.

**— Ці складана ў наш час прадаваць работы, ёсць попыт?**

— Усё заўсёды купляецца і прадаецца, мае работы не выключэнне. Я не зацікаўлены ў камерцыйнай выгадзе, мая творчасць — гэта цікавасць да справы. Купляецца ў мяне ўсё выпадкова, бывае, што людзей вабяць кампазіцыі, прадстаўленыя на выстаўках. Калекцыянеры цікавяцца новымі праектамі і таксама набываюць некаторыя з іх, часам работы купляюць музеі.

**— Кожны мастак мае асабістую прастору. Што для вас мастацкая прастора і якую ролю адыгрывае?**

— Паняццю прасторы я навучыўся ў Малевіча. Менавіта ад яго і ўзяў прастораваe бачанне свету. Казімір Малевіч — адзіны мастак, які ў той час авангарду заявіў, што мастацкая форма бярэ пачатак не з прыроды і асяроддзя, а за межамі фізічнага свету — гэта значыць, ад Бога. Мастацкая прастора для мяне — схаваны, сакральны свет, на які гляджу двайстым поглядам, гэта маё ўнутранае ўспрыманне. Вы трапляеце да мяне ў душу, шукаеце блізкія для сябе сэнсы. У творчай прасторы я стараюся захоўваць тонкую духоўную струну і праношу яе ў кожны праект.

**— Аляксандр Васільевіч, ваш творчы шлях пачаўся з акварэльнага жывапісу. Што падштурхнула кардынальна змяніць напрамак у мастацтве?**

— Так, пятнаццаць гадоў я прысвяціў акварэлі і ўвайшоў у Саюз беларускіх мастакоў менавіта як акварэліст. Школа акварэлі стала сапраўднай школай: навучыла майстэрству, дапамагла зразумець асноўныя прынцыпы жывапісу. А што адбылося пасля, не ведаю нават да гэтага часу. Напэўна, зразумеў, што акварэль не змяшчае ўвесь мой светапогляд, і пачаў шукаць сябе ў авангардзе. Вырашыў рухацца далей і ў сваіх карцінах пазбавіўся фону, вызваліў іх ад рамы, пакінуў толькі малюнак, падзелены на розныя ўзроўні ўспрымання.


*«Сатварэнне сусвету. Агонь-вада», 2015 г.*

**— Вашы інсталяцыі ўражваюць. Якім чынам нараджаюцца ідэі для эксперыментаў? Гэта натхненне альбо вынік шматгадовага вопыту?**

— Мастацтва — гэта асобная рэлігія, якая ў кожнага свая. Калі няма ў што верыць, нічога не атрымаецца. Можна ў звычайнай сцяне бачыць белую плоскасць, а можна наадварот: прабіць гэтую сцяну, дадаць у яе бель малака, розныя колеры і ўявіць, што ты знаходзішся ў пустаце. У выніку атрымаецца эксперымент.

**— Авангард часам нагадвае фармат *3D*. Атрымліваецца, што ён уласцівы не толькі кінематографу…**

— Так і ёсць, толькі ў мастацтве гэта своеасаблівая тэндэнцыя — імкнуцца да аб'ёму. Авангардысты паказваюць схаваны духоўны свет, дапамагаючы гледачу ўбачыць яго на ўласныя вочы, звярнуць увагу на вытанчанасць форм і дакрануцца рукамі. У мастацтве ўсё духоўна, і падаплёка адна — падштурхнуць гледача да адчування асабістага духоўнага свету. У кіно ўсё адбываецца віртуальна.


*«Дамінант чырвонага», 2013 г.*

**— У чым вы бачыце сэнс і прызначэнне мастацтва?**

— Мастацтва — гэта рэальнасць, якую я ствараю. Але рэальнасць не фізічная, не тая, якую за акном відаць, а прастора для паглыблення гледачоў. Галоўнае, што маё мастацтва пабудавана на эстэтычных законах і новых эксперыментах. Авангард заўсёды эксперымент і пошук новых сродкаў выразнасці. Я ж мастак з лапатай, мне заўсёды неабходна «рыць зямлю» для адчування новых уражанняў.

**— Аляксандр Васільевіч, вы шмат гадоў выкладаеце старшакласнікам курс сучаснага мастацтва. Вучні пераймаюць ваш вопыт?**

— Абавязкова. За васямнаццаць гадоў настаўніцкай дзейнасці я напісаў мноства навучальных праграм. Сваіх вучняў навучаю па метадзе Малевіча, навучэнцы якога праходзілі асновы сучаснага мастацтва, вывучалі ўсе мастацкія кірункі, набывалі тэарэтычны і практычны вопыт і пасля станавіліся майстрамі сваёй справы.

**— Як знайсці шлях да гледача?**

— Сучаснае мастацтва павінна рухаць вера не толькі ў аўтара, але і ў гледача. Усе спрабуюць знайсці ў творах аўтарскі пасыл і патаемныя сэнсы. Канечне, без іх у нашай справе не абыходзіцца, але ж успрыманне твора залежыць ад сумеснай цікавасці гледача і мастака.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**

# Самапазнанне праз горад



**Гэтыя карціны — не фатаграфічны аналіз Мінска, не рэпартаж, а настрой яго вуліц — жывых істот, іх унутраны свет, перададзены ў гульні яркіх фарбаў і геаметрычных форм.**

Звыклыя нам адрасы, праспект Незалежнасці, вуліцы Камуністычная альбо Веры Харужай, пераўтвораца ў свядомасці мастака і выглядаюць незвычайна — месцамі ярка, казачна, падобна на сон ці мары, а дзесьці, наадварот, стрымана і абстрактна. Карціны Дзяніса Барсукова, — нібы вокны, толькі адразу ў дзве рэальнасці — сапраўдную, знаёмую і выдуманую, вельмі асабістую. Персанальная выстаўка мастака адкрылася ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (пр-т Незалежнасці, 47). Экспазіцыя «Праспект» — развагі пра тое, чаму адну з галоўных вуліц Мінска назвалі «гістарычным шрамам» часу на целе горада. Гэта не архітэктурна-прасторавая дакументацыя, а гарадскія вобразы-ўражанні, перажыванне прасторы, а не канстатацыя хібаў ці вартасцей савецкай забудовы. Дзяніс Барсукоў паказаў нам свет, аднаўлены з сябе, пераўтвораны і нанова, па-мастацку дасканала, сканструяваны.

Дарэчы, падчас адкрыцця выстаўкі гасцей здзіўлялі не толькі працы, але і перформанс ад мастака і пісьменніка Аляксея Талстога, які ў арт-супольнасці ўспрынялі неадназначна. Падчас урачыстых прамоў ён проста вываліў на падлогу мех з бульбай. Ніхто такога не чакаў, але ва ўчынку, аказваецца, быў глыбокі сэнс. Перформер назваў Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў узорнай культурнай гаспадаркай, а беларуская бульба была паднесена ў знак павагі і падтрымкі. Так ці інакш, акцыю сустрэлі цёпла і з разуменнем.

**Марыя ВОЙЦІК**

*«Веры Харужай, 1».*

# Шлях дадому

**«Няўжо гэта і праўда Мінск?» — чую ў цемры голас кагосьці з гледачоў. Сапраўды, можна здзівіцца, па-першае, таму, што на экране не звыклая панарама цэнтральных вуліц горада, а нешта індустрыяльнае, па-другое, таму, што Мінск у кінатэатры бачыш вельмі рэдка.**




Беларуская стужка Андрэя Курэйчыка «ГараШ» ужо палову месяца трымаецца ў айчынным пракаце, і паказы яшчэ працягваюць — цікавасць да айчыннага кіно ў гледача навідавоку. Упэўніцца ў тым, што беларускі кінематограф усё ж існуе, прыходзіць даволі шмат людзей. Кажуць, у дзень прэм'еры квіткоў было не дакупіцца.

Але чаму, калі ў кіно паказваюць, напрыклад, доўгачаканага «Дэдпула», беларусы ідуць на «ГараШ»? Няўжо так чакалі фільма менавіта нашага? Ці таму што хацелі ўбачыць адлюстраванне сваёй рэчаіснасці?

Фільмы, дзе можна паглядзець на сябе з боку, для беларусаў — рэдкасць. Гэта можна адсачыць хоць бы па тым, што прапаноўваюць нам у кінатэатрах: амерыканскае кіно, расійскае, яшчэ якое замежнае… Ледзьве не адзіная магчымасць пазнаёміцца з адлюстраваннем беларускай сучаснасці ў кіно цяпер — стужкі незалежных рэжысёраў, адну з якіх можна, як ні дзіўна, убачыць зараз на вялікім экране.

«ГараШ» — гэта прыклад таго, што малабюджэтная стужка можа стаць айчынным бестселерам. Аўтар ствараў гэты фільм з камандай аднадумцаў амаль на валанцёрскіх пачатках (нават магчымасці знайсці асобны аўтобус для здымкаў не было, таму прасілі кіроўцу аднаго з маршрутаў паездзіць са здымачнай групай па Шабанах), грошаў шмат у яго не ўкладаў, таму і на неверагодны вынік не разлічваў — спачатку было вырашана выкласці «ГараШ» у інтэрнэт. Але стужку заўважылі на кінафестывалі «Лістапад», пасля якога паказвалі ў іншых краінах. Так «шабаноўскае» кіно з'явілася на экранах нашых кінатэатраў.

Галоўны герой фільма — малады хлопец Віталь Барзоў (яго ролю выканаў артыст Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Арцём Курэнь), якога дэпартавалі і з самой Амерыкі, яшчэ і пазбавілі працы ў прэстыжным аўтасэрвісе. Дзякуй богу, хоць рэкамендацыю далі! Але каго яна цікавіць, калі адзінае месца, дзе можна знайсці працу, — Шабаны? Так Віталь аказваецца на мінскай ускраіне, у аўтасэрвісе «Гараж», дзе працуюць суровыя механікі ў выкананні Аляксандра Кулінковіча і Юрыя Навумава. Тут і пачынаецца пераадоленне: Віталь сваю «амерыканскасць» павінен пакінуць, бо такім «хіпстарам» тут не месца. Калі мы бачым кадры з Шабаноў, пачынаем разумець, якая цудоўная Серабранка ў параўнанні з імі. Думаем: а што ёсць мы?

Магчыма, гэта яшчэ адна прычына, чаму глядач на фільм ідзе: ён створаны людзьмі такімі ж, як мы самі — акцёры-дэбютанты, ніякіх спецэфектаў, кадры з Амерыкі здымалі ў Мінскім офісе... Усё сваё, роднае. Мы рэагуем на жарты, якія гучаць з экрана. Мы, беларусы, разумеем жарты пра долар, пра тое, які селядзец смачнейшы, пра тое, што ў нашай краіне аднолькава нельга і працаваць, і не працаваць. У стужцы бачым сябе з усімі недахопамі, думкамі як і ў персанажаў, так што і смех і грэх. Разам з героямі стужкі вучымся адчуваць прыгожае, падзяляць добрае і дрэннае, бачыць сэнс там, дзе яго можа і не быць.

Гэта кіно хутчэй пра пошук сябе як грамадзяніна, пра нацыянальную самаідэнтыфікацыю, якая ў сапраўднага беларуса адбудзецца, што б ні здарылася, нават калі ён і жыў некалькі год у Амерыцы. Рэальнае кіно пра нас рэальных. Беларусы іранічна глядзяць на сябе з экрана, разумеюць учынкі герояў, могуць паставіць сябе на іх месца. У дадзеным выпадку і на месца аўтамеханікаў, якія працуюць у стэрэатыпна вядомых Шабанах, і на месца дзяўчыны, якая разбіла новую машыну, купленую на бацькавы грошы, і на месца маладога, згубленага ў прасторы хлопца, якога дэпартавалі з Амерыкі не «на родину, а на радзіму», сказалі «го хоум».

А пасля кожны з нас можа зразумець, як прачынаецца ў ім пачуццё нацыянальнай прыналежнасці, адчуванне сябе беларусам, як у галоўнага героя. Пакрысе ён самаідэнтыфікуецца, прывыкае да беларускага, знаходзіць прыгажосць у навакольных краявідах. Усё пачынаецца з малога — хаця б са слова «дзякуй» на роднай мове, а ператвараецца ў патрыятызм.

У стужцы «ГараШ» закранутая праблема і беларускага кінематографа: рэжысёр зрабіў у невялічкім па хранаметражы фільме (60 хвілін) радыёдыскусію на тэму праблем беларускага кіно, выкраіў час для таго, каб сказаць пра нацыянальныя фільмы ў кінастужцы. Гэта, канечне, пытанне не вырашае, але прымушае гледача задумацца: і сапраўды, ці існуе беларускі кінематограф? Дзе ён?..

Гэты фільм дэманструе нам хаця б тое, што беларускае кіно можа існаваць і без вялізнага бюджэту — глядач, магчыма, і не чакае шэдэўра — ён ідзе паглядзець на сябе проста таму, што не кожны дзень такое бывае. І як толькі з'явіцца яшчэ адна такая стужка, беларус пойдзе і на яе. Таму што альтэрнатывы няма — надакучыла чужое. Можа, нашым кінамайстрам трэба задумацца над тым, чаго хоча аўдыторыя, і пачаць здымаць кіно, якое зацікавіць гледача, нягледзячы на кольцасць укладзеных грошай.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# «Крэйцарава саната» па-магілёўску

**На сцэне Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра прадставілі неўміручую класіку, але ў сучаснай інтэрпрэтацыі. У лютым адбылася прэм'ера спектакля «Крэйцарава саната» паводле аднайменнага твора вялікага рускага пісьменніка-гуманіста Льва Талстога. Невялікая па аб'еме аповесць нясе ў сабе глыбокі філасофскі і этычны сэнс, раскрываючы ірацыянальную прыроду кахання і іншыя таямніцы быцця. Адаптаваць гэты матэрыял для сцэны аказалася годнай задачай для сапраўднага майстра — такога, як галоўны рэжысёр драмтэатра Саўлюс Варнас.**



Фота Юліі Пеплер.

Сцэна са спектакля «Крэйцарава саната».

У інтэрпрэтацыі літоўскага рэжысёра, які ўжо некалькі год працуе ў горадзе на Дняпры, хрэстаматыйны твор Талстога набыў новае гучанне. Класічная музыка і разняволены блюз Тома Уэйтса, акрабатычныя нумары, сучасныя прычоскі і рэтра-строі — апраўданая эклектыка, уласцівая рэжысёрскаму почырку Саўлюса Варнаса. Змрочна-зачараваную атмасферу дапамагаюць стварыць дэкарацыі, распрацаваныя маладой мастачкай Ірынай Камісаравай. Кожная дэталь, ад касцюмаў да рэквізіту, прасякнута дваіста-метафарычным сэнсам, стваараючы ўражанне, што дзеянне адбываецца па-за часам і нават па-за звыклай рэальнасцю — у сферы падсвядомага, у прасторы сну. Люстэркі, якімі аздоблена сцэна, нібыта нагадваюць: зазірні ў сярэдзіну свайго «я», і знойдзеш корань усіх праблем.

Дзея трымае гледача ў напружанні, хаця інтрыгі амаль няма — у цэнтры ўвагі канфлікт у душы галоўнага героя Васіля Познышава, які забівае сваю жонку з прычыны лютай рэўнасці. Пакутуючы ад пачуцця віны і спрабуючы вырашыць унутраныя супярэчнасці, герой спавядаецца ў сваім зверскім учынку выпадковым людзям — суседзям па цягніку.

Нягледзячы на тое, што норавы ў сённяшнім грамадстве зусім не такія строгія, як у часы Талстога, сутнасць адносін паміж поламі не змяняецца на працягу гісторыі чалавецтва. Менавіта на гэтым і акцэнтуе ўвагу рэжысёр: «Галоўны змест гэтай аповесці і, адпаведна, спектакля — гэта асэнсаванне адносін паміж мужчынам і жанчынай. І гаворка ідзе пра немагчымасць поўнага ўзаемапаразумення. У кожнага з нас ёсць імкненне да шчасця, і мы шукаем сугучча ў іншай душы, але непазбежна здараецца разрыў і ўзнікае прорва паміж поламі. Спроба пабудаваць ідэальны шлюб у аповесці канчаецца трагічна. Як адшукаць шчасце? Ці магчыма яно наогул? Што такое каханне? Рацыянальнага адказу на гэтыя пытанні не існуе. Магчыма, выйсце — у рэлігіі, духоўнасці, і Талстой якраз да гэтага сам і прыйшоў. Многія людзі толькі праз боль і пакуты знаходзяць свой шлях, сваю веру».

Рэжысёр падкрэслівае, што філасофска-маральныя праблемы, закранутыя ім, актуальныя і сёння. І кожны глядач, незалежна ад свайго ўзросту і адукацыі, здольны асэнсаваць «Крэйцараву санату». Прынамсі, на спектакль, апроч дарослых, прыходзілі школьнікі, і ўбачанае знаходзіла ў іх жывы водгук.

У спектаклі задзейнічаны як маладыя акцёры, так і «касцяк» трупы — Галіна Лабанок, Васіль Галец. З галоўнай роляй бліскуча справіўся Іван Трус — харызматычны артыст, які першы сезон працуе ў калектыве Магілёўскага драмтэатра. Як прызнаўся акцёр, праца над пастаноўкай пачалася яшчэ з восені мінулага года. «Мы не толькі рэпеціравалі, а яшчэ і пастаянна абмяркоўвалі з рэжысёрам розныя аспекты твора, доўга асэнсоўвалі гэты складаны матэрыял, — распавядае Іван Трус. — Іграць няпроста, па-першае, праз фізічную стомленасць. На працягу дзвюх з лішкам гадзін я практычна безупынна рухаюся па сцэне, размаўляю і нават выконваю акрабатычныя нумары… Складана і ў псіхалагічным сэнсе: рэжысёр даў мне ролю «на вырост», як найменей на 20 год наперад. Я ўдзячны лёсу за гэтую магчымасць выявіць свае здольнасці і наогул за тое, што патрапіў у Магілёўскі драмтэатр, мне надзвычай цікава працаваць пад кіраўніцтвам Саўлюса Варнаса. Тэатр-сон, які стварае гэты рэжысёр, не патрабуе ад гледача абавязковай інтэлектуальнай падрыхтоўкі — яму неабходна толькі раскрыць сваё ўспрыняцце, уключыць на максімум інтуіцыю. Спектаклі «Жаніцьба», «У маленькай сядзібе» і іншыя пастаноўкі майстра — гэта тое, чым можа ганарыцца не толькі Магілёў, але і Беларусь».

**Вольга СЕМЧАНКА**


CÓRA PIASTÓW
POWIEŚĆ
Z DZIEJÓW LITEWSKICH.

*Выданне з аўтографам У. Сыракомлі, 1855 г.*

# DO UT DES,

## або Як вярнуць нацыянальныя каштоўнасці?

Год культуры набірае моц. Вялікія планы на 2016 год у Прэзідэнцкай бібліятэкі Беларусі: канферэнцыі, «круглыя сталы», сустрэчы з пісьменнікамі, мастакамі, выбітнымі палітычнымі, дзяржаўнымі дзеячамі. Цыкл мерапрыемстваў распачаўся лекцыяй «Праблемы рэстытуцыі культурных каштоўнасцей і некаторыя пытанні кнігазнаўства» Пятра Краўчанкі. Галоўны бібліятэкар аддзела абслугоўвання Таццяна Лучагіна прадставіла госця: гэта беларускі дыпламат, даследчык, калекцыянер. Найбольш цікавыя вытрымкі сустрэчы прапануем вашай увазе:

### РЭСТЫТУЦЫЯ

— Паняцце «рэстытуцыя» — з галіны міжнароднага права (раздзел міжнароднай адказнасці, міжнародных патрабаванняў) і звязана з праблемай вяртання культурных каштоўнасцей. На жаль, Беларусь страціла 99% нацыянальнага багацця (самыя розныя зборы, жывапіс, скульптура, кнігі, архівы, нумізматыка, рэчы матэрыяльнай, археалагічнай, мінералагічнай культуры), таму што была пераходным мостам паміж Захадам і Усходам, з'яўлялася пастаянным тэатрам ваенных дзеянняў. Гэта дадзеныя міжнароднай канферэнцыі ЮНЕСКА 2001 года, якая праходзіла ў Беларусі і канстатавала гэтую лічбу. Многае згарэла ці проста было вывезена.

У склад першай дэлегацыі за мяжу ў якасці афіцыйнага прадстаўніка Беларусі ўвайшоў доктар гістарычных навук Адам Мальдзіс, які прафесійна мог разабрацца ў пытаннях рэстытуцыі. Перад прафесарам Мальдзісам стаяла задача знайсці заходні след Крыжа Ефрасінні Полацкай. З гэтага пачалася дзейнасць па вяртанні культурных каштоўнасцей…

У 1992 годзе было падпісана 28 міжнародных пагадненняў з палякамі і створана беларуска-польская культурная камісія па рэстытуцыі культурных каштоўнасцей. На кіруючую пасаду запрасілі Анджэя Ціханавецкага. У час вайны ён змог купіць у Радзівілаў, калі яны бедствавалі, некалькі сервізаў, срэбра, крышталь, сталовыя прыборы. У яго была выдатная калекцыя еўрапейскай бронзы XII — XIV ст. Сярод іншых каштоўнасцей — партрэты Яўхіма Храптовіча, заснавальніка нашай унікальнай бібліятэкі, якая зараз знаходзіцца ў Кіеве. Менавіта Анджэй Ціханавецкі з падачы Мальдзіса прывёз і падарыў нам першы Слуцкі пояс, пра які тады можна было толькі марыць (Слуцкія паясы тады ў нас былі толькі ў якасці асобных фрагментаў).

Камісія пачала працаваць, распачаўся дыялог паміж музейнымі работнікамі, бібліятэкарамі, дыялог абменам калекцый. У той час яшчэ была магчымасць дамагчыся вяртання з Польшчы пэўных каштоўнасцей па прынцыпе джэнтльменскага абмену — узаемных падарункаў. Але не было патрэбнай дагаварной базы.

Першы напрамак, па якім мы павінны працаваць, — Расія. Паколькі можам спадзявацца на джэнтльменскія адносіны. Трэба вылучыцца з прыярытэтамі. Лічу, што найпершая задача — вяртанне архіваў ВКЛ (прыкладна 25 тыс. кніг), якія знаходзіліся ў Нясвіжы. Скарынаўскія выданні знаходзяцца ў Санкт-Пецярбургу, у былой імператарскай бібліятэцы (сёння Расійская дзяржаўная бібліятэка) і ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Трэба працаваць па прынцыпе *do ut des* — з лац. «даю, але каб і ты мне штосьці даў». Наша стратэгія — Літоўская метрыка, Слуцкія паясы.

У Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве знаходзіцца 140 — 150 слуцкіх паясоў, унікальны збор. Патрабаваць яго немагчыма, бо гэта — калекцыя тагачаснага расійскага мецэната Пятра Шчукіна. У Расіі ёсць абсалютныя доказы, што яна набывалася за асабістыя сродкі Пятра Шчукіна ў антыкварах Вільні, Рыгі, Варшавы, Санкт-Пецярбурга, Сібіры…

Ёсць легендарныя дадзеныя наконт калекцыі Слуцкіх паясоў Радзівілаў. У 1939 годзе, у час іх арышту, было знойдзена 32 паясы, з якіх 16 унікальных. У 1939-1940 годзе яны былі вывезены ў Маскву — падчас дэкады беларускага мастацтва. Паводле некаторых звестак, пэўная частка магла застацца ў Маскве, у Смаленску. Але гэта не адпавядае рэальнасці. Усе паясы вярнуліся сюды, у Мінск, але былі страчаны ў 41-м годзе. Ёсць інфармацыя, што яны вывозіліся ў Кёнігсберг, у Германію, аднак гэта не пацверджана.

Слуцкі пояс — гэта прыкладна 200 грамаў золата і 60 — срэбра: у аснову ўпляталіся залатыя і сярэбраныя ніткі. Многія паясы былі знішчаны, таму што ў XIX ст. іх пачалі пераплаўляць на золата. Па падліках навукоўцаў, усяго за 50 гадоў у майстэрні Яна Маджарскага было выпушчана прыкладна 5 тыс. Слуцкіх паясоў. Да нашага часу, лічыцца, захавалася 3 тысячы. У Маскве — 150, ёсць і ў іншых месцах. Дзе? Раскідана па прыватных калекцыях. Многа Слуцкіх паясоў у Варшаве.

### КНІЖНАЯ СПАДЧЫНА

— Добра было б пачаць шукаць славянскія інкунабулы. Усяго ў свеце існуе 9 назваў славянскіх інкунабул. Гэта, як правіла, усё тое, што друкавалася да 1500 года ўключна. Інкунабулы кірылічнага друку, інкунабулы Фіоля — унікальная з'ява. Колькі іх? Дзе шукаць? Трэба ставіць пытанне, каб гэта кніга-калыска з'явілася на Беларусі. Швайпольт Фіоль — легендарная асоба, выбітны прадстаўнік Адраджэння. Многія лічылі, што ён славянін, але на самай справе немец. Уявіце: залаташвей, ювелір, горны майстар, навуковец і кнігавыдавец. Ён выдаў, як вядома, 4 кнігі: Акціох (захавалася 9 экзэмпляраў), Часаслоў (26), Трыодзь Посная (18), Трыодзь Каляровая. За апошнія дзесяцігоддзі не сустракалася інфармацыі, каб інкунабулы кірылічнага друку і Фіоля прадаваліся.

У бібліятэцы Храптовічаў была адна з лепшых у Еўропе калекцыя інкунабул: кніжніца атрымала тэстамент (завяшчанне) апошняга ўладальніка бібліятэкі. Аказалася, што мы і ўкраінцы па-рознаму трактуем тэстамент. Згодна з ім, бібліятэка вывозілася ў Кіеў часова і пасля Першай сусветнай вайны павінна была вярнуцца на Беларусь першаму ўніверсітэту, які тут будзе створаны. Але да гэтага часу арыгінал тэстаменту не знойдзены. Ёсць пэўная копія, якая не падпісаная, аднак падаецца аўтэнтычнай, дзе гаворыцца, што Храптовічы даўно збіраліся перадаць бібліятэку Кіеўскаму ўніверсітэту. Для гэтага яшчэ ў 1909 годзе запрашаўся беларус М. Доўнар-Запольскі. Чаму ён быў зацікаўлены, каб бібліятэка апынулася ў Кіеве, невядома: гэта патрыёт беларускай зямлі, аўтар унікальнай кнігі «Асновы беларускай дзяржаўнасці». Такім чынам, перамовы вяліся яшчэ раней, а ў час Першай сусветнай вайны бібліятэка Храптовічаў (ад 5 да 7 тысяч кніг) была перададзена на часовае захаванне — на 25 гадоў — з просьбай вярнуць яе першаму ўніверсітэту, які будзе створаны на беларускай зямлі. Меўся на ўвазе Віленскі ўніверсітэт… Сёння бібліятэка Храптовічаў вяртаецца да нас у выглядзе лічбавых копій дзякуючы працы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, але вельмі шкада, што наша нацыянальнае багацце знаходзіцца ў суседзяў.

Мы рыхтуемся да знакавай падзеі 2017 года — 500-гадовага юбілею кнігадрукавання. Многія мараць, каб да гэтага нацыянальнага свята на Беларусі з'явілася яшчэ адно Скарынаўскае выданне. Я таксама марыў знайсці. І… 7 гадоў назад выпадкова ў Маскве натрапіў на ўладальніка ўнікальнага выдання — «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны. «Малая падарожная кніжыца» і ўвогуле віленскія выданні Скарыны, у тым ліку «Апостал», больш рэдкія. Першае месца ў свеце займае «Малая падарожная кніжыца», якая захоўваецца ў бібліятэцы Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу. Што да той «Малой падарожнай кніжыцы», што трапілася мне, то сёння можна канстатаваць: гэтая кніга знаходзіцца ў Беларусі і з'яўляецца ўласнасцю адной фізічнай асобы. Вядуцца перамовы паміж рознымі дзяржаўнымі структурамі аб нацыянальнай рэстытуцыі ў дачыненні да гэтай кнігі. Іншыя Скарынаўскія выданні таксама ў прыватных руках. У свеце ёсць асобы, якія маюць, прынамсі, 2 сшыткі — Евангелле ад Іова і Кнігу Сірахава. Апошняя ўнікальная: паводле бібліёграфа В. С. Сопікава, там змешчаны партрэт Францыска Скарыны. Так што справа не безнадзейная. Тут ужо гаворка пра рынкавыя адносіны. Трэба думаць пра набыццё гэтых кніг.

Вельмі важны напрамак працы — каталагізацыя. У нас рыхтуецца віртуальнае выданне кніг XV — XVIII ст., дзе будзе 4000 пазіцый (раней было 2000). Але каб паказаць усё кніжнае багацце Беларусі, гэтага недастаткова. Патрэбна годная каталогавая сістэма ўзроўню энцыклапедычнага выдання.

* * *

**П. Краўчанка прадставіў да разгляду знойдзеныя ім выданні з аўтографам Уладзіслава Сыракомлі (выдадзеныя ў 1855 г. і 1858 г. у Вільні); экслібрыс У. Сыракомлі; выданне 1905 г. А. Бохана «З польскай паэзіі»; асобнік М. Багдановіча «Вянок» 1913 г. (выдадзены ў Вільні, у друкарні Марціна Кухты) і іншыя. Дэманстравалася таксама калекцыя з асабістай бібліятэкі даследчыка.**

**Наталля СВЯТЛОВА**

*З нагоды*

# Бы дзве легенды

Юбілеі класікаў айчыннай літаратуры Івана Шамякіна і Івана Мележа ў календары побач — 30 студзеня і 8 лютага 1921 г. — розніца ўсяго ў тыдзень. Дзіўна, як у многім падобны іх жыццёвыя і творчыя біяграфіі. Два Іваны — два земляні (ураджэнцы Гомельшчыны), два франтавікі, два летапісцы народнага жыцця. З нагоды 95-годдзя з дня нараджэння майстроў слова бярэзінскія бібліятэкары ладзілі цыкл мерапрыемстваў-акцый «Каб не мялець душой — будзем чытаць класікаў!».

Адмысловая прайшла святочная вечарына «Два класікі — дзве кнігі — дзве гісторыі пра каханне». Праз прызму твораў «Палеская хроніка» І. Мележа, «Палеская мадонна» І. Шамякіна моладзі прадставілі тэму кахання. Твор Мележа прысвечаны лёсавызначальным падзеям краіны 1920-х гадоў, твор Шамякіна — разломным 90-м, але яны актуальныя і сёння: ва ўсе часы сапраўдныя пачуцці не старэюць, першае каханне не забываецца. Перажыванні літаратурных герояў беларускіх класікаў сугучныя думкам сучаснікаў. Зачынам да размовы паслужыла выказванне І. Шамякіна: «Каханне — агонь, які запаліцца ўспыхаве, але лёгка можа патухнуць; песня, якая дае асалоду, але можа і хутка скончыцца. Любоў — яднанне дзвюх душ, звязвае навечна. Яна — не мёд, яна — жытнёвы хлеб, у якім маеш патрэбу штодня. Любоў — як хлеб арганізму, дае жыццёвую сілу пачуццю». Ведаў, што казаў. Шамякін з жонкай пражыў 58 гадоў. Форма монатэатралізацыі з агульным лейтматывам «Каханне: ад спаткання да расстання» прыйшлася даспадобы маладзёжнай аўдыторыі. Невялікія, але яркія эпізоды, узмоцненыя тэатралізацыяй, не пакінулі слухачоў абыякавымі. Суперажывалі героям, разважалі над жыццёвымі сітуацыямі, у якіх апынуліся закаханыя. Зараджэнне кахання Васіля і Ганны, заляцанні да Ганны багацея Яўхіма — класічны трохкутнік у каханні, калі дзяўчыне трэба было зрабіць выбар паміж каханым хлопцам з беднага роду і нялюбым назойлівым кавалерам з багатай сям'і.

Паводле аповесці І. Шамякіна «Палеская мадонна» бібліятэчны тэатр кнігі ажывіў гісторыю кахання маладога настаўніка і вучаніцы выпускнога класа. І сённяшнім школьнікам знаёмая сітуацыя, апісаная ў творы: з'яўленне маладога, рамантычнага, улюбёнага ў сваю справу настаўніка выклікае вучнёўскую зацікаўленасць дзяўчат. І як складана, калі нараджаецца забароненае педагагічнымі правіламі і этыкай каханне настаўніка да вучаніцы, ні словам, ні дзеяй не выдаць яго і даць волю пачуццям толькі пасля выпускнога вечара...

Калі трылогія Мележа многім вядома па кінафільмах і спектаклях, то аповесць Шамякіна дзякуючы тэатралізацыі стала для мясцовай моладзі літаратурным адкрыццём.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ,**
**загадчык аддзела маркетынгу**
**Бярэзінскай ЦБ**

# Псіхалогія пераўвасабленняў

**Тэатральны касцюм — гэта дэкарацыі, якія акцёры носяць пры сабе, «тлумачальны слоўнік» для іх саміх і гледачоў, што назіраюць з зала. Так, залатаная не адзін раз хустка падкрэслівае ўнутраную драму, разгубленасць альбо цягу да правакацыі. Пышная бальная сукенка — высокі статус персанажа, любоў да раскошы і ўспрыманне жыцця як свята. Касцюмы ў тэатры — нібыта ілюстрацыі ў кнізе, дадатковая і вельмі важная частка тэатральнай рэальнасці, сцэнічнай выявы, тое, што неаддзельна ад акцёра, яго другая абалонка.**



*Кацярына Булгакава. Эскізы касцюмаў да пастаноўкі «Сем прыгажунь». Шах Бахрам і яго каханая.*

## ЖЫВЫЯ ЭСКІЗЫ

Ад чаго ж залежыць стварэнне тэатральнага касцюма? Напэўна, ад характару і жанру пэўнай п'есы, публікі, на якую разлічана пастаноўка эпохі, што ажыццяўляецца на сцэне... І гэтак далей. Стварэнне эскізаў — тонкая праца, якая патрабуе ад мастака пошукаў арыгінальных выразных сродкаў, пранікнення ў рэжысуру, разумення задач пастаноўкі. Неабходна адчуць, што варта падкрэс-ліць: гучанне колеру ці вастрыню характару, грацыёзнасць сілуэта або, наадварот, камічнасць манер. У кожным касцюме хаваецца каркас ролі, на якую нанізваецца астатняе.

Можна зразумець гэта не толькі ў тэатры, але і на выстаўцы сцэнічнага касцюма і графікі мінчанкі Кацярыны Булгакавай. Экспазіцыя працуе ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў Рэспублікі Беларусь (вул. Някрасава, 3). Тут прадстаўлены эскізы, фатаграфіі сцэн са спектакляў, арыгінальныя касцюмы да опер «Аіда», «Набука» Дж. Вердзі, балета «Сем прыгажунь» К. Караева. Ужо 14 гадоў мастачка працуе ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета. Яе касцюмы можна ўбачыць таксама ў спектаклях «Штраусіяна» І. Штрауса, «Пахіта» Л. Мінкуса, «Хто я?» С. Картэса, «Фестываль кветак у Чынзана» І. Хельсгейма, «Па дэ катр» Ц. Пуні. Займаецца Кацярына Булгакава і дызайнерскімі калекцыямі адзення. Але менавіта тэатр — любоў усяго жыцця. Кожны яе эскіз — нібыта жывы, рухомы, таму падказвае акцёрам псіхалогію іх герояў, асаблівасці рухаў і манер, а значыць, спрыяе больш глыбокаму разуменню роляў.





*Кацярына Булгакава. Гара-мелік у спектаклі «Каханне і смерць».*

## КВІНТЭСЭНЦЫЯ МІСТЫЧНАГА

Існуюць дэкарацыі і касцюмы, якія працягваюць жыць як самастойныя, скончаныя творы і пасля таго, як спектакль сышоў са сцэны. Яны не змяшчаюцца ў традыцыйныя схемы, не з'яўляюцца проста сцэнаграфіяй, а становяцца мастацтвам, якім у дасканаласці валодае польскі майстар, прафесар Анджэй Струміла. Яго выстаўку «Тэатраліі» можна ўбачыць да 5 сакавіка ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (Някрасава, 3). Дзед і бацька мастака, якога называюць «польскім Леанарда», родам з Мінска, лічыць сябе чалавекам Вялікага Княства Літоўскага, але вельмі шануе менавіта нашу, беларускую культуру. У экспазіцыі прадстаўлены эскізы касцюмаў, праекты дэкарацый, афішы да розных тэатральных і, у прыватнасці, оперных пастановак, якія ствараліся на працягу не аднаго дзясятка гадоў.



*Вобраз цудоўнай танцоўшчыцы.*

Эскізы, створаныя Анджэем Струмілам, дзівяць драматызмам і тэхнічнасцю, сімвалізмам і напружанасцю. На выстаўцы прадстаўлена шмат тагасветных, шматаблічных, дэманічных, пачуццёвых, складаных вобразаў — з Арыстафана ў «Птушках», Крыстафа Глюка ў «Арфеі і Эўрыдыцы». Шмат дэкарацый створана для Студэнцкага тэатра сатырыкаў у Варшаве. Аўтар любіць адлюстроўваць пэўнае расслаенне рэальнасці, таму ў многіх вобразах спалучаецца некалькі характараў і амплуа.

Анджэй Струміла — заўзяты падарожнік. Гэта і адбілася на яго творах. Ён пабываў у Індыі і Японіі, В'етнаме і Кітаі, Тайландзе і Непале, захапіўшыся філасофіяй Усходу і Азіі, з'ездзіў у Нью-Ёрк і на Каўказ. Сцэнаграфія — толькі малая частка творчай біяграфіі майстра. Анджэй Струміла займаецца амаль усімі відамі мастацтва. Яму падуладныя жывапіс і графіка, ён выдатны фатограф і ілюстратар, дызайнер і скульптар, публіцыст і паэт. Удзельнічае ў разнастайных дызайнерскіх і культурных ініцыятывах, курыруе міжнародныя мастацкія пленэры. І, галоўнае, нягледзячы на ўзрост, захоўвае бадзёрасць духу і цягу да творчасці.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

## Культурны ракурс

Калі ваш спадарожнік — цікаўная пяцігадовая дзяўчынка, вандроўка па беларускіх гарадах стане незабыўнай і яркай. Шпацыруючы па незнаёмым горадзе з малым, трэба прадбачыць, што традыцыйны спіс славутасцей, вартых абавязковага агляду, крыху пашырыцца.

Так і здарылася падчас нашага падарожжа ў Гомель. Дзякуючы дачцэ атрымалася не толькі экскурсія ў прыгожы горад з багатай гісторыяй, але і вандроўка ў дзяцінства. Зразумела, не абмінулі цікавыя паркі адпачынку, кавярні са смачным марожаным і, галоўнае, сустрэліся з улюбёнымі героямі вядомай гісторыі пра Бураціна. Скульптурная кампазіцыя Валерыя Кандраценкі на тэму казкі «Залаты ключык» усталявана побач з Гомельскім дзяржаўным тэатрам лялек у 2007 годзе.

**Аляксандра КАБЫЛКОВА**



*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 25.02.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1978.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 563

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686